

Ператоча ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Пранеслася стыхія ➔9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3091) Год LX Беласток, 9 жніўня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Бура ў Сямятычах

**У цені амаль скандалу прайшоў сёлета IV Міжнародны фестываль «Культура без межаў», які ад пачатку спадарожнічае Міжнароднаму сямятыцкаму кірмашу памежжа. На сцэне фестывалю выступілі калектывы з Латвіі («Sprigultis»), ромскі («Цыганскае сэрца» з вёскі Ігрылы пад Саколкай), сямятыцкі з польскім рэпертуарам («Małe Podlasie»), але ў асноўным беларускія з Беларусі («Бяседа», «Песняры», «Белыя росы») і беларускія з Беласточчыны («Калінка» і «Ас» з Беластока, «Оморфос» з Сямятыч). Да гэтага прадстаўнік арганізатара фестывалю, віцэ-старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Васіль Сегень у катэгарычным тоне абвінаваціў улады Сямятыцкага павета: «Арганізацыя Фестывалю прадугледжвала таксама падтрымку павятовага староства. Аднак павятовыя ўлады ў гэтым годзе праігнаравалі патрэбы нацыянальных меншасцей, хоць яны абавязаныя рабіць гэта па законе». Тут ён спаслаўся на закон аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове, які накладвае на дзяржаўныя органы абавязак падтрымліваць культуру нацыянальных меншасцей.**

Гэта выклікала буру. Нягледзячы на супраціў старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага, на сцэну ўвайшоў урэшце (паміж выступленнямі чарговых калектываў) староста Ян Залеўскі, разам са старшынёй Сямятыцкага кансорцыума эканамічных ініцыятыў Мечыславам Свайдам, арганізатарам сёлетняга X Міжнароднага сямятыцкага кірмашу памежжа. Незадоўга да выхаду на сцэну староста заявіў у размове з «Нівай»:

— Пан старшыня Сегень схлусіў, таму што староства выдала 5 тысяч злотых праз Кансорцыум эканамічных ініцыятыў у рамках тэндару па правядзенні культурных мерапрыемстваў. Я гэтым абураны. Калі гэтак далей будзе, у наступным годзе, верагодна, грошай для гэтага мерапрыемства не будзе. Не папрасілі мяне сюды, каб узяць голас, і нават не дазволілі выправіць хлуслівую інфармацыю.

Са сцэны Ян Залеўскі асцерагаў:

— Калі хто-небудзь хоча весці тут нейкія рэлігійныя і нацыянальныя войны з боку БГКТ, я гэта не прымаю. Я заўсёды хацеў супрацоўнічаць і супрацоўнічаю з рэлігійнымі і нацыянальнымі меншасцямі. Гэта я як сямятыцкі староста ўпершыню падпісаў пагадненне з Камянецкім раёнам у Беларусі і Злочаўскім ва Украіне. Я — самы адкрыты на супрацоўніцтва. Я таксама шырока звязаны як у сямейным, так і ў культурным плане з праваслаўным асяроддзем. Такім чынам, гэтыя справы для мяне вельмі блізкія. Я паважаю мультыкультуралізм і шматканфесійнасць нашага любімага Падляшша.

Адразу ж пасля гэтага на сцэну выйшаў старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі:

— Мы не гаворым пра дрэнныя дасягненні павятовага староства ў Сямятычах. Абсалютна не так. Мы сказалі, што ані граша на праект, які называецца «Культура без межаў» у гэтым годзе староства не дало (у папярэднія гады грошы для гэтай мэты былі назначаны — М. Х.). Вось і ўсё. Не жадаю сабе публічнага абвінавачання мяне ў хлусні.

У сваю чаргу старшыня Кансорцыума, тлумачачы, на што пайшлі пяць тысяч злотых, выдзеленых староствам, сказаў «Ніве»:




„Бяседа”

— У адпаведнасці з дамовай са староствам мы прызначылі іх на прамоцыю кірмашу ў прэсе, на радыё, тэлебачанні. Наш абавязак — адзначыць, што задача была выканана пры падтрымцы павятовага староства.

### Не хапіла экспанентаў з Беларусі

26 ліпеня ў рэкрэацыйнай зоне сямятыцкага заліва наведвальнікі мерапрыемства перш за ўсё гулялі і наведвалі размешчаныя ў пярэдняй частцы амфітэатра стэнды малых і сярэдніх прадпрыемстваў, галоўным чынам з галіны будаўніцтва, турызму і харчовай прамысловасці, пастаўшчыкоў паслуг і рамеснікаў менш вядомых на рынку, як і буйных фірм такіх як «Саколаў» ці «Пронар». Старшыня Кансорцыума Свайда патлумачыў нам ідэю кірмашу:

— Яна нарадзілася дзесяць гадоў таму на Семінарах мясцовага эканамічнага ажыўлення. Прыцягнулі яны шырокае кола жыхароў: і прадпрымальнікаў, і моладзь, і святароў, і чыноўнікаў, якія хацелі зрабіць нешта для развіцця рэгіёна. Год яны працавалі ў групах. У тайным галасаванні абрана была ідэя арганізавання менавіта такога кірмашу не толькі з-за таго, што ў нас ёсць блізка да Беларусі ці Украіны, але было ўжо на адзін крок да ўступлення ў сілу пагаднення аб малым памежным руху з гэтымі краінамі. Мы бачылі гэта як магчымасць прыцягнення партнёраў да супрацоўніцтва і з другога боку. Але, на жаль, гэтае пагадненне з Беларуссю да гэтага часу не ўступіла ў сілу (блакуе яго беларускі бок — М. Х.).

Падкрэсліў:

— Кірмаш служыць у асноўным таму, каб паказаць патэнцыйных прадпрымальнікаў, пастаўшчыкоў паслуг з Сямятыцкага павета.

У агульнай складанасці, сёлета зарэгістраваліся 92 удзельнікі. З прынцыпу і назвы сямятыцкі кірмаш мае служыць для трансгранічнага польска-беларускага супрацоўніцтва. Але сёлета не было ні адной фірмы з Беларусі. Старшыня Кансорцыума Свайда:

— І гэта праблема. Я быў асабіста ў Генконсульстве Беларусі ў Беластоку. Мы адправілі запрашэнне ў амбасаду РБ у Варшаве. У красавіку і траўні рушылі ўслед запрашэнні ў адпаведныя ўстановы ў Тарэспалі, Брэсце і Мінску. З беларускага боку, аднак, быў недахоп цікавасці. Раней беларускія кампаніі былі прадстаўлены тут, і нават падпісаны двухбаковыя пагадненні. Хоць я не ведаю, ці ўтрымалася тое супрацоўніцтва.

Прадстаўнікі прысутных на кірмашы большых фірм не змаглі распавесці аб супрацоўніцтве з Беларуссю. Адсылалі нас у свае цэнтральныя ўстановы з пытаннямі ў пісьмовай форме.

— Адразу ж пасля кірмашу назіраецца некаторае павелічэнне продажу нашых прадуктаў на гэтай тэрыторыі, — дадавалі.

Адным з самых малых удзельнікаў кірмашу была кампанія з Беластока з галіны цепла- і сантэхнікі. Ад яе шэфа мы даведаліся, як ацэньвае ён супрацоўніцтва з беларускімі кліентамі:

— Слаба. Мае калегі, якія наставіліся выключна на экспарт у Беларусь, цяпер маюць толькі праблемы. Лукашэнка моцна абмежаваў магчымасць прыезду беларусаў у Польшчу, а асабліва імпарт у Беларусь тавараў і пачаў трактаваць tax free як паўлегальны экспарт, а не толькі як здзелкі асобных асоб, але беларускія фірмы карысталіся ім. Куплялі тут тавар без ПДВ і без такога падатку, як правіла, прадавалі. Трохі Лукашэнку разумею, таму што ў гэтых адносінах беларуская дзяржава не мае даходу.

Прысутны на сямятыцкім мерапрыемстве дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко запэўніў «Ніву»:

— Неабходна ў наступным годзе пашырыць дзелавую частку пагранічнага кірмашу, арганізаваць удзел беларускіх прадпрыемстваў з Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Спадзяемся, што імі будзе прадстаўлена беларуская сучасная сельскагаспадарчая тэхналогія і іншыя сектары, якія ўяўляюць цікавасць на гэтым памежжы. Сёлета занадта позна дайшла ў наша пасольства інфармацыя аб кірмашы.



### З супрацоўніцтвам ненайлепш

На імпрэзе мы сустрэлі ўпаўнаважанага падляшскага ваяводы па нацыянальных і этнічных меншасцях, былога сямятыцкага старосту Мікалая Мантура:

працяг ☞ 2





# Лёс паэтаў

За заслонай сусветнай карупцыі і прадажнай рэал-палітык, за тупой маскоўскай агрэсіяй і нянавісцю крамлёўскай прапаганды, за псеўдавыбарамі ў Беларусі, ад якіх цягне на ваніты, хочацца паразважаць пра нешта больш вечнае, а менавіта пра паэтаў. Лёс паэтаў ніколі не быў просты — гэта асаблівая дарога, фатальнасць, наканаванасць. Напэўна гэта з кожным чалавекам, але лёс паэтаў — заўсёды больш наглядная ілюстрацыя нашага быцця на гэтай зямлі.

Самы яскравы прыклад — найвялікшы талент у гісторыі беларускай паэзіі Максім Багдановіч, якому Бог адвёў толькі 25 гадоў. Ад сухотаў і тыфу тады згаралі многія. Алаіза Пашкевіч памерла ў 40, а Паўлюк Трус, як і Багдановіч, у 25 гадоў. Не цяжка, аднак, уявіць, што было б з вялікім Максімам ды іншымі, каб яны пажылі яшчэ гадоў пятнаццаць-дваццаць. Яны былі б дакладна знішчаны антычалавечым сталінскім рэжымам. Як бязлітасна былі закатаваныя, забітыя сотні іншых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў у засценках НКВД і сібірскіх лагерах. Пясняр Вільні і рэдкі талент Уладзімір Жылка, не вытрымаўшы пераследу і здзекаў, памёр у ссылцы ў 1933 г., маючы няпоўныя 33 гады. Полацкі паэт Мікола Гваздоў загінуў у савецкім канцлагеры пад Варкутой каля 1937 г. У 1938 г. у лагеры загінуў паэт і драматург Леапольд Родзевіч, у перасыльным пункце памёр Міхась Багун. У зняволенні ў снежні 1939 г. не стала Макара Краўцова. У 1940 г. у савецкім канцлагеры пад каменнымі глыбамі загінуў Уладзімір Хадыка. У 1942 г. на лесапавале загінуў Сяргей Ракіта. У 1943 г. у савецкім канцлагеры загінуў Сяргей Дарожны. Змітрок Астапенка, беларускі паэт і перакладчык у пачатку Другой сусветнай вайны ўцёк з лагера на фронт, але загінуў у баі ў Карпатах у кастрычніку 1944 г. Тут ужо сапраўды фатум і непазбежнасць. Але на розных франтах загінулі адзінкі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. А вось так званымі „сваімі” у засценках НКВД (гэтую жудасную абрэвіятуру нельга перакладаць з рускай на іншыя мовы) былі расстраляны дзясяткі. Сяргей Астрэйка, Алесь Дудар, Тодар Кляшторны, Юрка Лявонны, Алесь Салагуб, Юлі Таўбін, Валеры Маракоў, Анатоль Дзяркач, Янка Туміловіч, Міхась Чарот... Адзін пералік прозвішчаў заняў бы тут цэлую старонку. Для параўнання — гітлераўскімі фашыстамі быў расстраляны адзін беларускі паэт — Алесь Дубровіч, сталіністы ж вынішчылі практычна цэлую генерацыю.

Уладзімір Дубоўка выжыў ва ўмовах, калі яго кідалі з ссылкі ў ссылку, але ажно 27 гадоў быў пазбаўлены магчымасці пісаць, а пасля быў змушаны да канца жыцця асцерагацца ўсяго. Янку Купалу скінулі ў пралёт лесвіцы ў Маскве, факт забойства Песняра энкавэдыстамі фактычна даказаны. Якуб Колас неяк ацалеў і нават перажыў Сталіна, але да канца сваіх дзён мусіў прыстасоўвацца пад савецкі рэжым. А вось Ларыса Геніюш ніколі не падладжвалася пад акупантаў, таму і стала сапраўдным гонарам нацыі.

Паэтам было няпроста і раней. Аднаго з пачынальнікаў нашай літаратуры Альгерда Абуховіча за тое, што хацеў раздаць зямлю сялянам, сваякі хацелі абвесціць вар'ятам. Сяргея Палуяна родныя, але не блізкія, давялі да самагубства ў дзевятнаццаць гадоў. Найбольш шчасліва склаўся лёс сучасніка Абуховіча — нашага класіка Францішка Багушэвіча. Паэт змагаўся са зброяй за вольнасць, навучаў дзяцей, бараніў людзей як адвакат, меў сваю сям'ю і гняздо, садзіў дрэвы, працаваў на зямлі. Быў годна і з вялікай павагай праведзены ў апошні зямны шлях, і нават годна ўшанаваны сёння. Але гэта нейкі выключны лёс.

А вось сучасныя паэты, звязаныя юным лёсам з Гародняй — Андрэй Пяткевіч, Едрусь Мазько, Юры Гумянюк, Ян Збажына. Усе адышлі заўчасна, кожны са сваёй трагедыяй, надломам, раздвоенасцю асобы. Трагічнай была канцоўка жыцця найбольшага паэтычнага талента нашага часу Анатоля Сыса.

Ды ўсё ж нараджае наша зямля новае пакаленне паэтаў. Бо пакуль жыве беларускае паэтычнае слова — жыве і Беларусь.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Бура ў Сямятычах



„Springulitis”

1 ☞ працяг

— Я рады, што цяперашні староста і яго намеснік працягваюць гэтую ідэю, якую распачалі падчас майго знаходжання на пасадзе — спалучэння Кірмашу памежжа і Фестывалю «Культура без межаў». Шкада, што, хоць кірмаш мае ў назве «памежны», сёлета няшмат мае з памежнасцю супольнага. Можа, гэта вынік польска-беларускіх адносін? Аднак, нягледзячы на гэта, варта было б прыняць некаторыя меры, якія прывялі б да супрацоўніцтва.

Бургамістр Сямятыч Пётр Сіняковіч ацаніў у размове з «Нівай»:

— З нашага пункту гледжання эканамічнае супрацоўніцтва з Беларуссю не выглядае найлепш, але культурнае ідзе значна лепш. Развіццё Сямятыч абумоўленае адкрыццём польска-беларускай мяжы. Увядзенне малога памежнага руху з Беларуссю, які ахапіў бы і Сямятычы, было б для нас выдатнай магчымасцю развівацца. Спадзяюся, што гэта адбудзецца.

— Хочам, каб у ваяводскі кантракт з урадам уключыць інвестыцыю звязаную з дарогай № 19 (аб'яднoўвае агламерацыі Беластока, Любліна і Жэшава і з'яўляецца калідорам, які злучае Славакію з краінамі Балтыі — М. Х.), — прадбачыў у сваю чаргу са сцэны ПСЛаўскі член Падляшскае ўправы Ежы Ляшчынскі, які нарадзіўся ў Цеханоўцы, а вырас у Перляеве.

Васіль Сегень, спасылаючыся на «Культуру без межаў» і агулам на сітуацыю беларускай меншасці ў Сямятыцкім павеце, сказаў нам:

— Рэалізацыя патрэб беларускай меншасці ў дачыненні да яе патрэб на гэтай тэрыторыі ў маёй ацэнцы нездавальняльная. Як БГКТ арганізоўваем кожны год дзве значныя падзеі: фестываль «Культура без межаў» і беларускі народны фэст. Тут таксама адбываюцца раённыя адборачныя канцэрты фестывалю «Беларуская песня». Мы рады, што мясцовыя беларусы арганізуюцца знізу. Узнікаюць новыя калектывы, якія спяваюць па-беларуску, такія як адносна нядаўна створаны «Оморфос», што дзейнічае пры Сямятыцкім асяродку культуры. Вельмі актыўная «Падляшская капэла», якая спрыяе не толькі беларускай культуры, ды калектывы ў Вілінаве — «Верасы» і ў Машчоне-Каралеўскай. Я не ведаю, як з групамі беларускага дыска-пола, але яны таксама тут ёсць. Маем тут таксама заўзятых аматараў беларускай культуры, такіх, як солтыс вёскі Бацікі-Бліжэйшыя, які штогод арганізуе беларускі фэст, даючы яму ўсё сваё сэрца. Толькі што гэта лічаныя асобы. На жаль, мы жывем у свеце арыентаваным на спажыванне, у якім без грошай не абысціся.

І дадаў, трохі ўбаку ад фестывалю-кірмашу:

— З прадпрымальнікамі так ёсць, што не кожны з іх ахвочы кінуць капейку на культуру. Гэта так, як відаць тут па дзеяннях старшыні Сямятыцкага кансорцыума эканамічных ініцыятыў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



Вачыма эўрапейца

# Пытанні
## да маршалак Сейма

З даволі нечаканым візітам прыбыла ў Беласток 23 ліпеня на фестываль «Падляшская актава культур» маршалак Сейма Малгажата Кідава-Блонская (Грамадзянская платформа). У гэты дзень раней наведала татараў у Крушынянах, а на Актаве з'явілася якраз своечасова, калі да выхаду на сцэну рыхтаваўся калектыў татараў Беласточчыны «Бунчук».

— Мы не павінны баяцца некалькіх соцень або некалькіх тысяч новых людзей, якія прыедуць у Польшчу. Можа быць, праз 100, 150 гадоў нехта скажа, што гэта былі выдатныя людзі, — сцвердзіла ў Крушынянах спадарыня маршалак, спасылаючыся на тое, што ў Польшчы павінны знайсці прытулак дзве тысячы бежанцаў з мусульманскіх краін. — Польшча заўсёды была адкрытай краінай, мы заўсёды адкрытыя для сяброўскіх людзей, якія хочуць з намі змяняць нашае навакольнае асяроддзе. Я прыехала сюды спецыяльна сказаць, каб мы не баяліся іншых людзей.

Я пакарыстаўся нагодай візіту спадарыні маршалак у Беласток, каб задаць ёй некалькі пытанняў датычных непасрэдна беларусаў, хоць ані яна, ані суправаджаючыя яе дэпутат і лідар Падляшскай ГП, старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах і парламенцкай групы па Беларусі Роберт Тышкевіч ды падляшскі ваявода Анджэй Мэер яе сустрэчы з прадстаўнікамі беларускага асяроддзя не прадбачылі. Я спытаўся, сярод іншага, ці ёсць шанц, каб яшчэ ў гэтым скліканні Сейма (парламенцкія выбары назначаны на 25 кастрычніка) парламент прыняў папраўкі да Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Пытуецца чатыры такія праекты, але я меў на ўвазе, галоўным чынам, парламенцкі, які прадугледжвае цэлы шэраг змяненняў. Яшчэ ў лютым падчас прэс-канферэнцыі з нагоды пасяджэння парламенцкай камісіі па меншасцях, прымеркаванага да 10-й гадавіны яе стварэння, дэпутаты, якія прадстаўлялі ўсе парламенцкія клубы, былі ўпэўненыя, што навелізацыя закона адбудзецца (больш пра планаваныя змены мы тады пісалі). Значыць, ці пройдзе абмеркаванне ва ўсіх парламенцкіх камісіях і будзе накіраваны да маршалка, а затым да чытанняў на пленарных пасяджэннях. На дадзены момант ён перададзены на разгляду спецыяльна прызначаную падкамісію. Цяпер маршалак Кідава-Блонская адказала адназначна:

— У гэты тэрмін больш ужо ніякі закон, які не знаходзіцца ў маршалка, не зможа быць прыняты. Да канца тэрміну Сейма засталося каля чатырох пасяджэнняў і каля ста актаў да завяршэння. Трэба аб ім думаць на наступны тэрмін, таму што на самой справе свет мяняецца, і некаторыя законы, як гэты, маюць патрэбу ў паляпшэнні, новым поглядзе. Гэта заданне для новага Сейма. Падобны лёс чакае папраўку да закона аб ветэранах, згодна з якім беларусы, сем'і ахвяр атрадаў Рамуальда Райса «Бурага» маглі б разлічваць на кампенсацыю і нічога тут не паможа заява, якую ў другой палове ліпеня падаў у канцылярыю маршалка падляшскі дэпутат Яўген Чыквін (СЛД), у якой просіць унесці праблему — як мне гэта назваў — пад агульнапарламенцкія дэбаты.

Маршалак Сейма, у якой я спытаўся, у сваю чаргу, як ацэньвае ўзровень сумеснага фінансавання з боку парламента мінаючага склікання арганізацыі нацыянальных і этнічных меншасцей у Польшчы — якая з году ў год рэальна застаецца на тым жа ўзроўні або ніжэйшым, калі не бярэцца пад увагу рэальнай фінансавай дарацжэючай рэчаіснасці, а часам і не адпавядаючай элементарным патрэбам для іх функцыянавання, не кажучы ўжо пра развіццё, адказала:

— Гэта не так, што грошы зніжаюцца. Ніколі не ёсць так, што ўсе задаволены бюджэтамі і грошай магло б быць больш. Але яны ёсць, і гэта не так, што іх ёсць менш, але ў апошнія гады яны былі такія як былі, і дадатковага росту не было. Я думаю, што дзяржава надае важнае значэнне падтрымцы нацыянальных і этнічных меншасцей. Важна, каб развівацца традыцыі, каб былі карані. Людзі адчуваюць сябе добра ў грамадстве, калі яны ўмацаваныя ў сваіх каранях. Таму меншасці павінны мець адчуванне таго, што яны жывуць у Польшчы, што яны палякі, але маюць сваю традыцыю і для таго ёсць дзяржаўная праграма, якая падтрымлівае іх.

Дадала:

— Грошай рашуча недастаткова, але ў гэты час і пры гэтых магчымасцях, іх ёсць столькі, колькі ёсць, і мы павінны іх дзяліць справядліва. Няма ў Польшчы асяроддзя, якое не хацела б мець больш грошай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XIII Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча»

**Дванаццаць гадоў таму назад было арганізаванае першае «Ператоча», падчас якога прэзентаваліся песні і культура розных нацыянальнасцей. Ідэя Белавежскіх мастацкіх інтэграцый — прэзентаваць культуру, песні і мову нацыянальнасцей, якія пражывалі ў Белавежскай пушчы і яе наваколлі. 24 і 25 ліпеня ў белавежскім амфітэатры сабраліся жыхары Гайнаўшчыны, айчынныя і замежныя турысты, каб паслухаць музыку розных нацыянальнасцей і паглядзець танцы ў выкананні прадстаўнікоў розных нацый. Так, як бывала ў мінулых гадах, сярод выканаўцаў найбольш было беларускіх калектываў. Побач іх удала выступілі палякі, літоўцы, немцы, украінцы, расіяне, яўрэі, караімы і цыгане.**

— Ператоча — месца перад дзвярамі ў клуню і токам, на якіх на гэтых тэрыторыях ладзіліся прыёмы гасцей падчас вяселляў, хрысцін і іншых сямейных мерапрыемстваў. Нашае «Ператоча» — сімвал гасціннасці і адкрытасці на розныя нацыі і культуры, якія пражывалі на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі, — сказаў Мікола Бушко, старшыня Фонду «Царкоўная музыка», ініцыятар і арганізатар белавежскага «Ператоча», якое ладзілася сёлета пад ганаровым патранатам маршалка Падляшскага ваяводства Мечыслава Башко. — Стараемся, каб кожны год выступалі цікавыя прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, з песнямі і танцамі. Прэзентуем цікавыя калектывы з нашага рэгіёна і так ёсць сёлета.

Адкрыў «Ператоча» выбраны восенню мінулага года войт Белавежскай гміны Грыгорый Каспровіч. Сабраныя выслухалі песню пра Белавежскую пушчу (раней выканаўцы пракаталіся на брычках па Белавежы, дзе віталі іх жыхары пушчанскай мясцовасці). Першымі на сцэне запрэзентаваліся Люба Гаўрылюк і Ала Каменская з Козлікаў. Іх выступленне перапляталася са спевам «Хору леснікоў Белавежскай пушчы» з Гайнаўкі.

— Тут добрая атмасфера і прыемна нам спявалася ўсярэдзіне Белавежскай пушчы. Мы рады, што публіка нас тут так цёпла ўспрыняла, а мне асабліва спадабалася сцэнічнае афармленне — прыгожыя дзверы ад клуні, якія ствараюць уражанне, што мы сапраўды спяваем на ператочы, — гаварыла Люба Гаўрылюк.

— Тут калектывы спяваюць ад сэрца і можна пазнаёміцца з рознымі культурамі. Нам спадабаўся выступ «Хору леснікоў», якога спевакі заспявалі на высокім узроўні, — заявіла Ала Каменская і пахваліла добрую арганізацыю «Ператоча».

«Хор леснікоў Белавежскай пушчы» выступаў некалькі разоў, а апошні раз удала запрэзентаваўся пад інструментальную музыку калектыву народных інструментаў «Камянецкія музыкі» з Камянца (Рэспубліка Беларусь). Гайнаўскія харысты пахвалілі інструментальны калектыў з Камянца, з якім выступілі пасля кароткіх рэпетыцый.

— Мікола Бушко творча ставіцца да сцэнарыя «Ператоча» і на гэты раз перад самым мерапрыемствам рашыўся на супольны выступ леснікоў і музыкантаў з Камянца, — сказаў Радаслаў Дамброўскі, журналіст Радыё «Рацыя», які чарговы раз спраўна вёў «Ператоча».

— Музыкі з Камянца іграюць вельмі ўдала і прыемна нам з імі спявалася. Мы рашыліся наладзіць супрацоўніцтва з «Камянецкімі музыкамі», — завіў Марк Анішчук, харыст «Хору леснікоў Белавежскай пушчы» і заадно харыст беларускага хору «Рэха пушчы» з Гайнаўкі. — «Хор леснікоў» дзейнічае з 2008 года і спяваюць у нас у галоўным працаўнікі Гайнаўскага і Белавежскага надлясніцтваў, але таксама іншыя асобы, так як я.

— Мы выступаем як інструментальны калектыў «Камянецкія музыкі» і вакальная група «Гармонія» з Камянца. У адныхі другім калектыве іграюць і спяваюць настаўнікі Дзіцячай школы мастацтваў з Камянца, — сказаў Мікола Грмік, кіраўнік аддзялення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Камянецкага райвыканкама, які ў «Камянецкіх музыках» выступіў бубначом. — Мы супрацоўнічаем з Міколам Бушко здаўна і выступалі ўжо на «Ператочы». Цяпер дабіраліся на мерапрыемства праз веласіпедны пагранпераход «Белавежа-Перароў». Праз яго сталі ў нашую частку Белавежскай пушчы прыязджаць турысты з Польшчы. Можа ў будучыні пачне дзейнічаць малы памежны рух, які дазволіў бы выязджаць нам і вам за мяжу з памежнай зоны. Зараз у нас вядзецца абмен паміж Гайнаўскім паветам і Камянецкім раёнам у галіне культуры і спорту. Нашы спартсмены выступаюць у Гайнаўцы, а спартсмены з Гайнаўкі спаборнічаюць у нас. Мы ў Камянецкім раёне і ў Гайнаўскім павеце рэалізуем вялікія інвестыцыі з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў. Зараз вядзецца вялікая водна-сцёкавая інвестыцыя ў Камянцы, а такая ж інвестыцыя закончылася ў Гайнаўцы.



Калектыў народных інструментаў «Камянецкія музыкі» з Камянца (Рэспубліка Беларусь)


Народная вакальная група «Гармонія» з Камянца


Караімскі танцавальна-музычны калектыў «Бірлік» з Трок (Літва)

«Камянецкія музыкі» ўдала выступалі самастойна, іграючы на народных і больш сучасных інструментах. Займальна запрэзентаваліся таксама жанчыны з Камянца, з народнай вакальнай групы «Гармонія», пад музыку «Камянецкіх музыкаў».

— Тут добрая атмасфера для выступаў. Нам цікава было выступіць і цікава паглядзець выступленні іншых калектываў, — гаварыла Анна Грушэўская з калектыву «Гармонія», які дзейнічае з 2004 года.

Цікава паказаўся нямецкі фальклорны калектыў «Masurenklang» з Мрангова.

— Мы заснавалі калектыў, арганізуем нямецкія мерапрыемствы, падчас якіх спяваем і танцуем, а нашыя дзеткі ў школе вучацца нямецкай мове. Тут у нас ёсць магчымасць пазнаёміцца з беларускімі і іншымі песнямі і гэта нас цікавіць, — сказала Бажэна Бонгарц з фальклорнага гурта «Masurenklang».


Белавежская публіка

Сваімі спевамі і танцамі захапіў сабраных караімскі танцавальна-музычны калектыў «Бірлік» з Трок (Літва).

— Нашыя продкі, караімы, прыбылі ў Трокі з Каўказа падчас войнаў і пасяліліся тут. Мы — хрысціяне і стараемся па сваіх магчымасцях захоўваць нашую культуру. Я яшчэ крыху размаўляю па-караімску, а дзеткі толькі пачалі вучыцца роднай мове. Яны вучацца ў літоўскіх школах, а сваёй мове вучацца ў сваім коле. Мы заснавалі дзіцяча-маладзёжны калектыў, каб паказваць караімскія песні, танцы і нашую культуру, — гаварыла апякун гурта «Бірлік» з Трок Маргарыта Раецкене, а Мікола Бушко ўдакладніў, што прадстаўнікі караімаў жылі таксама на тэрыторыі Белавежскай пушчы.

Літоўскую праграму запрэзентаваў фалькавы калектыў «Inkstiliuks» з Таўрогаў (Літва), які ўзяў сваё названне ад аднайменнай рэчкі.

— Мы выступаем з народнымі песнямі, танцамі і народнымі музычнымі інструментамі, — заявіла спадарыня Раса з гурта «Inkstiliuks».

Беларускія песні запрэзентаваў вакальна-інструментальны калектыў «Хутар» з Гарадка, які выступіў у прыгожых народных уборах.

— Наш калектыў быў заснаваны па маёй ініцыятыве і я кірую яго дзейнасцю. Спачатку я сабраў музыкантаў, якія са мной ігралі на вяселлях у сямідзясятых гадах, а пасля далучыліся да нас маладушыя асобы. Я і мая жонка спяваем, а апошнія іграюць на народных інструментах, — расказаў кіраўнік «Хутара» Янка Карповіч. — Я зараз на пенсіі і ў мяне ёсць больш вольнага часу. Раней працаваў я культработнікам у гміне, але знаходзіў час на рэпетыцыі і выступы. Люблю чытаць «Ніву», бо ў ёй можна даведацца пра нашыя беларускія справы і беларускія культурныя мерапрыемствы, на якіх мы выступаем.

Чарговым калектывам, які прыехаў на «Ператоча» з Літвы і цікава выступіў, быў народны расійскі калектыў «Арынушка» з Вільні. Цыганскі калектыў «Sare Roma» таксама прыбыў з Вільні і ўдала запрэзентаваўся перад публікай са сваёй праграмай. Асабліва цёпла быў успрыняты падчас «Ператоча» выступ беларускага калектыву «Ручаёк» з Белавежы.

— Мы, як белавежскі калектыў, штогод прэзентуемся падчас «Ператоча». Публіка добра ўспрымае нашыя выступы, а нам падабаецца гэтае мерапрыемства, — сказаў Марк Зубрыцкі, музычны і арганізацыйны кіраўнік «Ручайка», які таксама састаўляе акампанемент для школьнага калектыву «Сунічкі» з Белавежы (запрэзентаваўся падчас «Ператоча» ў мінулым годзе). — Я выступіў з праектам, у рамках якога мы сёлета пашылі касцюмы для «Сунічак». Можа спевакі са школьнага калектыву ў будучыні ўступяць і ў наш «Ручаёк».

Займальна выступіла «Сямейнае трыо» з Макаўкі. Карпацкі калектыў «Галыцкія музыкі» прыехаў з Цярнаполя (Украіна) і сваёй музыкай здабыў прыхільнасць публікі. Цікава на розных музычных інструментах іграў Клезмерскі калектыў «Klezmaholics» з Любліна. Зоркай «Ператоча» стаў самадзейны калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага, які выступіў цудоўна. Нядаўна «Маланка» адсвяткавала 25-годдзе дзейнасці. За чвэрць стагоддзя калектыў пад кіраўніцтвам мастацкага апекуна Сяргея Лукашука выступіў ажно больш чым пяцьсот разоў. Свае творы першапачаткова выдаваў на аўдыякасетах, а пасля на кампакт-дысках. Апошняя кружэлка «Мы вам жадаем» з песнямі «Маланкі» была выдадзена да юбілею.

— Мы рады, што нас тут так добра ўспрымаюць і напамінаюць пра нядаўна адсвяткаваны намі юбілей, — заявілі спевакі «Маланкі», якія чарговы раз запрэзентаваліся на «Ператочы».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Катрынка зноў у Кляшчэлях

Узорны клуб аматараў фальклору «Катрынка» (горад Высокае, Беларусь) 28 чэрвеня 2015 г. быў запрошаны ў Кляшчэлі на раённы Дзень пажарніка і 90-годдзе мясцовай Добраахвотнай пажарнай каманды. Дзеці і дарослыя — 31 чалавек выступілі з канцэртам, які складаўся з двух частак: народнай і эстраднай. Канцэрт пачаўся з «Прывітальнай песні». Дзеці вынеслі тры беларускія караваі і пачаставалі ўсіх прысутных на свяце. Разам з намі выступалі члены «Клуба юных пажарных» з Мілейчыч. Дзяўчынкі спявалі вельмі добра. Пасля канцэрта дзеці адпачывалі на гульнявой пляцоўцы, частаваліся смачнымі стравамі.

Фота Аляксандра Шчурава



Вельмі прыемна было пачуць словы падзякі з вуснаў бургамістра Кляшчэль Аляксандра Сяліцкага, а таксама старшыні пажарнай каманды Кшыштафа Лянге. У сваю чаргу прадстаўнікі калектыву «Катрынка» выказваюць вялікі дзякуй членам аб'яднання «Прыяцелі Кляшчэлеўскай зямлі», з якімі супрацоўнічаем на працягу ўжо доўгага часу, за падвоз членаў беларускага калектыву ў Польшчу, асабіста дырэктару мясцовага Дома культуры Марыі Клімовіч за добразычлівую апеку.

Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва.

## Праект працуе

Працягваюцца працы па праекце «Паляпшэнне трансгранічнай сістэмы аховы навакольнага асяроддзя мясцовасцей Чаромха і Высокае па сродках пашырэння каналізацыйнай інфраструктуры».

У рамках працы 12 чэрвеня 2015 г. у Чаромсе адбылося пасяджэнне Кардынацыйнай рады па выкананні плана праекта. Беларускую дэлегацыю ўзначаліў дырэктар камянецкага Камунальнага ўнітарнага многагаліновага вытворчага прадпрыемства Жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Галавач. У склад дэлегацыі ўваходзілі таксама Мікалай Сачык — старшыня Высокаўскага гарвыканкама, Людміла Дудар — каардынатар праекта, дырэктар Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі г. Высокае і дэпутат Камянецкага раённага Савета дэпутатаў Віталь Лазеба. У склад дэлегацыі ад гміны Чаромха ўваходзілі войт гміны Міхал Врублеўскі, сакратар гміны Марыя Іванюк, бухгалтар Міраслава Кандрацкая-Найбук, каардынатар праекта Ірыней Леанюк.

Пасля абмеркавання рабочых момантаў у гміне, удзельнікі семінара праехалі па маршруце будаўнічых работ. Праект для польскага боку пашыраны. За выдзеленыя грошы яны здолеюць пабудаваць яшчэ ачышчальныя збудаванні ў Чаромсе. У ліпені намячаецца сустрэча ў Высокім.

**Людміла ДУДАР**
Старшыня Праўлення Камянецкага
РГКАА «Спадчына»

# Вярнуцца да гнязда

**Гаспадаром «Сяброўскай бяседы» ў Гарадку зноў з'яўляюцца «Прымакі» і яе лідар Юрка Астапчук, цяпер, пасля вяртання з Міхалова, дырэктар гарадоцкага Гміннага цэнтра культуры. Такім чынам да мінулага года арганізаваная ў Міхалове галоўным чынам ім «Прымацкая бяседа» перайшла ў гісторыю. Пачынаючы сёлетні, шаснаццаты выпуск гарадоцкага мерапрыемства, арганізаванага з размахам разам з Беларускім грамадска-культурным таварыствам і пры ўдзеле Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве, зараз перад адспяваннем яе гімна Юрка Астапчук спытаў аўдыторыю пра песню: „Хто памятае, як разам мы спявалі са сцэны «Гэй, Сяброўская бяседа»?" Надалей на дадзены момант наплываючая публіка адказала гучным: «Я!»**



Прымацкі стол



На сцэне «Купалінка»

У рамках шматгадзіннага канцэрта 25 ліпеня выступілі на сцэне па паляне Барык зоркі беларускай сцэны вялікага фармату: культавыя «Песняры», «Бяседа», «Купалінка», але і госці закончанай дзень пазней Падляшскай актавы культур — «Лялечкі» з Абухава ці вядомыя хаця б з фестывалю Беларуская песня «Белыя росы» з Гродна, і, вядома, цэлы шэраг беларускіх калектываў, якія працуюць пры гарадоцкім ГЦК, ды гурты з Орлі, Нарвы ці Беластока. Вядома, рэй вялі «Прымакі», якія паміж сваімі выступамі традыцыйна заселі за шырокім сталом на сцэне на фоне каляровага ландшафту з вясковай хатай і сярод дэкарацый, прыгадваючых падворак. Акрамя таго, сарганізаваны былі таксама конкурсы, між іншым на беларускі верш аб «Сяброўскай бяседзе». Былі феерверкі і пачастунак традыцыйна печанымі перад публікай парасятамі. Гледачы, назіраючы за выступленнямі, размясціліся побач з лаўкамі на пледах. Да змроку музыка захапіла ўсіх да танцаў. Сярод чыноўнікаў гулялі сам Мечыслаў Башко, падляшскі маршалак, і шэраг гасцей з Беларусі з былым міністрам культуры Беларусі і паслом Беларусі ў Польшчы, а ў цяперашні час у Францыі і ў ЮНЕСКА Паўлам Латушкам і заканчваючым працу ў Генеральным консульстве ў Беластоку консулам Аляксандрам Берабенем, які, папрошаны намі падвесці сваю працу, коратка сказаў: «Успаміны аб Падляшскім ваяводстве пакіну як найлепшыя».

Новы генеральны консул у Беластоку Ала Фёдарава (раней консул у Варшаве) ужо мае дазвол на ўезд у Польшчу, хоць да гарадоцкай імпрэзы пакуль не мела візы, выдадзенай польскім Міністэрствам замежных спраў.

Спасылаючыся на «Сяброўскую бяседу» — падобна як шмат мясцовых жыхароў, з якімі мы гаварылі — войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша не хаваў гонару ў размове з намі:

— Гэта нашае найбуйнейшае і найбольш важнае пленэрнае мерапрыемства, якое ўжо назаўсёды запісалася на карту мерапрыемстваў не толькі мясцовага, але і міжнароднага ўзроўню. Усё больш і больш гледачоў прыбывае на яе, значыць, пашыраецца супольнасць сяброў Гарадоцкай зямлі і ўсё паказвае на тое, што вельмі яна патрэбная. «Прымакі», як часам дзеці, вылецелі з сямейнага гнязда і цяпер вярнуліся, і я думаю, што надоўга застануцца.

Сваімі ўспамінамі і меркаваннямі пра «Сяброўскую бяседу» падзяліліся з намі некаторыя члены беларускіх калектываў Беласточчыны, у тым ліку Галена Бура, кіраўнік гарадоцкага «Асенняга ліста», які ў наступным годзе адзначыць сваё дваццацігоддзе:

— Мы выступалі на працягу многіх гадоў у многіх месцах, але «Сяброўская бяседа» вельмі важная для нас, таму што прыязджаюць сюды іншыя калектывы, з якімі можам пазнаёміца, пагаварыць, разам пабяседаваць. Сакрэт гэтай падзеі заключаецца ў тым, што ў дадатак да выступленняў можна проста пасядзець разам і распавесці адзін аднаму пра сваё жыццё, разам трохі паесці і выпіць, як у адной вялікай сям'і, і Юрка Астапчук добра гэта арганізуе, і гэта ўсім падабаецца.

Марыя Врублеўская з «Расспяванага Гарадка»:

— «Сяброўская бяседа» з'яўляецца для нас заўсёды вялікай радасцю і вялікім святам. Людзі тут сабраліся, каб сустрэцца і даведацца аб творчасці іншых, таксама беларусаў з Беларусі...

Адна яе калега з групы ўставіла:

— Можа толькі шкода, што няма нейкай польскай знакамітасці, як папярэднім разам — «Эней».

Адной з самых маладых выканаўцаў была Наталля Алексяюк з Тапалян. Пасля выступлення падкрэсліла:

— Выдатна я адчувала сябе тут, на сцэне. У мяне не было страху сцэны наогул. Гэта вельмі выдатны і цікавы фестываль. Я спяваю па-беларуску, таму што мне падабаецца беларуская мова. Юрка Астапчук яшчэ ў Міхалове рыхтаваў мяне да розных конкурсаў.

Песні, таксама з апошніх сваіх двух альбомаў, выканала група «Песняры». Цяпер у Беларусі дзейнічае пяць калектываў, якія выкарыстоўваюць назву, але таварны знак быў выдадзены Дзяржаўнаму беларускаму ансамблю «Песняры» пад кіраўніцтвам Вячаслава Шарапава і гэтая каманда лічыцца афіцыйным спадчыннікам легендарнага стваральніка групы Уладзіміра Мулявіна і гэтая група выступіла на «Сяброўскай бяседзе». Вячаслаў Шарапаў сказаў «Ніве»:

— Іншыя калектывы пад гэтым брэндам — самазванцы. Яны ўзнікаюць і знікаюць. Стылістычна мы вельмі блізкія «Песнярам» Мулявіна. Калі справа даходзіць да якасці, гэта не мне судзіць. Адно можна сказаць напэўна: мы спрабуем абараніць традыцыі, і гэта мы хочам паказаць тут.

Песні ансамбля «Бяседа» як «За маладых», «Маруся», «Запрагай-ка, бацька, коней» ці «Звіняць звончыкі» добра вядомыя шматлікім жыхарам Беласточчыны. Іх даўні мастацкі кіраўнік Леанід Захлеўны, які з'яўляецца стваральнікам многіх песень у выкананні ансамбля або іх распрацаваў, у размове з «Нівай» сказаў:

— За год мы будзем адзначаць 25-ю гадавіну і святкаваць юбілей 14 студзеня ў мінскім Палацы культуры. Аб песнях наўрад ці можна сказаць словамі, не толькі пра тыя, якія рыхтаваў я і наш таленавіты кампазітар і баяніст Мікалай Алешка. Натхненнем для нас з'яўляецца беларуская мова, беларуская традыцыя і культура. Без песні людзі не будуць мець душы, сказаў вялікі Рыгор Шырма (харавы дырыжор, фальклярыст, грамадска-культурны дзеяч — М. Х.), які, дарэчы, быў маім настаўнікам.

Юрка Астапчук у размове з журналістамі не хаваў:

— Мы блукалі, блукалі, пакуль не вярнуліся на сваё месца, дадому. Людзі тут і калектывы, якія тут спатыкаюцца, цудоўныя, спяваюць ад сэрца. Кожны беларус, які жыве тут, на польскай зямлі, можа ганарыцца, што можа мець такі фэст. Дзякуючы яму беларусы ажываюць, яны хочуць спяваць, танцаваць, паліць вогнішчы... падтрымліваць беларускую культуру і шчыра прымаць усіх, хто да іх прыязджае.

Сярод гледачоў мы прыкмецілі Марка Назарку, былога бургамістра Міхалова, які месяц таму адмовіўся ад пасады старшыні ПКС у Беластоку, і ў цяперашні час ён дырэктар Варшаўскага філіяла завода Польскай газавай кампаніі ў Мінску-Мазавецкім:

— Ну, мне шкода як былому бургамістру Міхалова, што «Прымацкая бяседа» зараз зноў стала «Сяброўскай бяседай» і няма яе ў Міхалове, таму што гэта найлепшая беларуская імпрэза ў Польшчы. Прыход Юркі Астапчука ў Міхалова гэта быў добры ход. Яго мерапрыемства прыцягвала шматтысячную аўдыторыю. Для мяне прыярытэт заключаўся ў садзейнічанні Міхалову, садзейнічанні беларускай культуры, каб у Міхалова прыязджалі людзі.

Роўна праз тыдзень пасля «Сяброўскай бяседы», як быццам у дадатак да культурнага календара пасля «Прымацкай бяседы», у Міхалове праводзіліся «Беларускія фолькавыя сустрэчы». Аб іх — праз тыдзень.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

**За плотам новазбудаванага, суперсучаснага мусульманскага цэнтра ў Крушынянах час затрымаўся.**

**Вясковую вуліцу перасякаюць аўтамабілі з усяго свету і такія ж людзі з фотаапаратамі на шыі. Безліч чужынцаў. Мясцовыя жыхары адчуваюць сябе мабыць так, быццам перасялілі іх з хатай і панадворкам недзе ў Варшаву ці Познань. Баюся, што мяне, абутую ў блiскучыя «дызлі», успрымуць як адну з абрыдлых турыстак.**


■ Анатоль Кірмуць

# Ваенны лёс Кірмуцёў

Шукаю найстарэйшага жыхара Крушынян Анатоля Кірмуця 1930 года нараджэння. Вячэрняй парой у хаце яму не сядзіцца.

— Напэўна пайшоў да Ніны, — кажа яшчэ не стары, але змораны сусед. Гэтую інфармацыю на польска-беларускай трасянцы пацвярджае таксама пажылая жанчына з сабачкам.

Пазітыўнае здзіўленне. Застукаўшы ва ўказаныя дзверы, чую некалькі галасоў, якія шчыра запрашаюць увайсці ў сярэдзіну. На кухні, побач з прыгожа аднаўленай старой печкай, быццам святочнае застолле з удзелам двух мужчын і жанчыны, у іх ліку спадар Кірмуць.

— Нічога спецыяльнага не святкуем, — тлумачаць, — от любім спаткацца, пагаварыць.

Наша бяседа пачынаецца з пытанняў адкуль я, чыя, чым займаюся, чаго хачу і ці я праваслаўная. А далей усё пайшло як па масле.

Энергічны, вясёлы, адзеты ў зялёныя, мабыць вайсковыя, штаны на шлейках Кірмуць зусім не выглядае на сваіх восемдзесят з лішнім гадоў.

— Калісь мамін брат — высокі чыноўнік, палкоўнік думаў паслаць мяне ў школу. Я страшэнна не хацеў вучыцца, марыў стаць машыністам альбо ісці ў міліцыю. Купілі мне каня і я — машыніст, але на ўласных гектарах. Рабіў шмат і ў лесе, і на крушынянскай гідрафорні, паслаць не было калі. Жонка маўляла: «Працуй, працуй, а на старыя гады ложку ў рот не сунеш». А тут бабе рукі трасуцца, а я як працаваў, так і працую, — смяецца мой суразмоўца.

Запытаны пра найважнейшыя ў жыцці падзеі, думкамі вяртаецца да часоў Другой сусветнай вайны.

Бацька Косця — рослы, здаровы мужчына — узяў сабе жонку з аддаленых на 18 км ад Крушынян, цяпер беларускіх, Клепачоў. Вера ўнесла добры грашовы пасаг, за які можна было купіць 20 кароў. Потым свайго рашэння шкадавала.

Бацька не любіў рабіць, асабліва на гаспадарцы. Таму за першых саветаў пакарыстаўся магчымасцю і пайшоў у міліцыю. Быў здаровы, вялікі, таму прынялі яго з ахвотай. Пасяліліся мы на беластоцкіх Баярах. Пайшлі ў школу, я ў расійскую, якая знаходзілася ў будынку сённяшняй пошты па вуліцы Варшаўскай, а сястра ў беларускую. Добра і весела там жылося, пакуль немцы не прыйшлі. Як пачалі страляць, так усе шыбы з вокнаў павыпадалі. Я з сястрой і маткай былі вымушаны вярнуцца ў Крушыняны, бацьку забралі на фронт. Служыў у цяжкай артылерыі, з якой дайшоў да Масквы. Падмаскоўская вялікая рака стала чырвонай ад нямецкай крыві. Сталін разбамбіў мост, усіх немцаў пataпіў і пазабіваў. Пасля бацька вярнуўся да нас. Надта дапамагаў савецкім партызанам з атрада Аляксея Карпюка, прысутным між іншым у Крушынянах. Аддаваў ім усё, нават свой міліцэйскі плашч. Чуў я пра іх баявыя акцыі. Гэта было пры мосце за Валілямі. Немцы вартуюць, а побач мужыкі, выйшаўшы касіць сена, пачынаюць біцца. Немцы ў смех, а партызаны бомбу пад чыгунку падкладаюць. Я сам ім вінтоўкі вазіў. Гэта было зімой. Аднойчы паехалі мы з бацькам у лес. Бачу, падыходзіць да нас двух незнаёмых мужчын. Пытаюся ў бацькі хто яны, але той не хоча мне нічога сказаць. Не заспакоіўшы цікавасці, вяртаюся дахаты. Даехаўшы, бацька кладзе нешта на гэтыя сані, прыкрывае снапом саломы, загадае не заглядаць туды і ехаць назад у лес. Я падымаю сноп, а там вінтоўка. У лесе падыходзяць да мяне раней убачаныя мужчыны, забіраюць вінтоўку і па-руску прыказваюць: «Смотри, никому не говори». Потым уначы чуў, як мама бацьку папракала: «Нашто ж ты дзіця туды паслаў, як выгаварыцца, не дай Бог, перад дзецьмі, прыйдуць немцы і ўсіх нас пазабіваюць».

Праз мяне і крушынянскі солтыс — татарын — Талькоўскі аднойчы гумай па спіне дастаў. Паслаў ён бацьку з вінтоўкай на начную варту. Бацька за вінтоўку, а я за патроны, і давай у гракоў страляць. Потым аднашу я гэтую вінтоўку да солтыса і чую за сабой стук конскіх капыт. Адварочваюся, а там немцы. Думаю, куды мне цяпер уцякаць, але ж гэта немагчыма, немцы зразу застрэляць. Дагналі мяне, а тоўсты немец сядзіць на брычцы і смяецца:

— Вось табе і партызан. Што б ты зрабіў бы, калі б ад цябе хацелі забраць зброю? — пытаецца праз тлумача немец.

— Уцякаў бы да солтыса.

— Ставай на брычку, — загадаў.

Запыніліся насупраць солтысавай хаты.

— Солтыс!!! — закрычаў камісар і даваў яму нагайкай па спіне.

Я думаў, што ад страху здурэю. Назаўтра солтыс прыйшоў да нас з пісталетам. Нацэліўся ў бацьку... Людзі... Мы з мамай і сястрой з хаты паўцякалі... Але не забіў. Надта любіў ён хабары. Хто ведае, ці і ў гэты раз бацька ў яго не выкупіўся.

Ад немцаў мы таксама цудам выратаваліся. Усе мы спалі, як пад хатай раздаліся гукі аўтамабіля. Надта прыгожы амтскамісар праз свайго тлумача загадаў збірацца на вывазку. Сястра ўхапілася за ногі амтскамісара і пачала лямантаваць на цэлую вёску. Смерць заглянула ў вочы. Я падумаў, што прыйшла ўжо пара развітацца з гэтым светам. У амтскамісара, мабыць, таксама былі дзеці, таму што пашкадаваў ён нас.

— Бяры вінтоўку і ідзі бандытаў пільнаваць, — загадаў Косці солтыс.

Партызан пільнавалі разам з Вараб'ём. Калі б не паслухаўся, немцы яго б забілі.

У 1942 годзе ў вёску ўвайшла група адзетых у нямецкія мундзіры партызан з Папоўкі. Сустрэў іх жыхар Крушынян Варабей і сказаў, што злавіў партызан і ведае дзе яны. Пераадзетыя партызаны загадалі ісці да солтыса. Той прабаваў уцякаць. Знайшлі яго за хлявом і забілі. Потым цэлую серыю пусцілі ў Вараб'я, у яго ўласнай хаце. Астатнія вясковыя мужчыны, убачыўшы здарэнне, схаваліся ў кузню. Партызаны Косцю забіваць не хацелі, паслалі яго дахаты быццам па пашпарт. Але бацька, чалавек з вёскі, не паслухаўся, рашыўся надалей сачыць за жахлівым відовішчам.

— Мы коней пасвілі, калі прыйшоў да нас нейкі чалавек і сказаў, што забілі Кірмуця, Вараб'я і солтыса. Я не ведаў, што са мной робіцца. Прыходжу дахаты, а там бацька ляжыць на кухні, на падлозе крыві поўна, матка лямантуе. Прыйшоў хрышчоны і забраў мяне на начлег. Я не ведаў хто я, дзе я. У сям'і пачаўся голад. Маці з мяшочкам да сястры ў Клепачы за хлебам хадзіла.

Зараз пасля вайны Аляксей Карпюк напісаў ёй ліст, каб падалася ў Варшаву па кампенсацыю па Косці за дапамогу партызанам. Але бедная, вясковая жанчыне ехаць туды было немагчыма.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Лечымся... фольгай!

Фольга зручная не толькі для падрыхтоўкі страў у духоўцы, яна яшчэ і лечыць! Калі вас турбуе шыйны астэахандроз або болі ў паясніцы, ці баліць пятачная шпора, што немагчыма наступіць на пятку? Ёсць такія праблемы? Калі ёсць, бярыце фольгу і бліскучай паверхняй прыкладзіце да хворага месца. Да вашага здзіўлення і радасці, болі праз некаторы час пройдуць!

Справа ў тым, што біятокі, выпусканыя нашым арганізмам у біялагічна актыўнай кропцы, будуць адлюстроўвацца і вяртацца назад у мерыдыян, адкуль і выйшлі. Гэта вельмі дабратворна ўплывае на хворы орган, з якім гэты мерыдыян звязаны. Такім лёгкім спосабам можна прыбраць праблемы, прыбраць боль, які вас ужо дастаў. Такому ўздзеянню паддаюцца нават калоідныя рубцы, тыя, што застаюцца пасля аперацый на месцы хірургічнага разрэзу, якія нічым не прыбіраюцца, акрамя як лазерам або вадкім азотам. Вельмі цікавы спосаб лячэння фольгай практыкуюць кітайскія лекары. Лячэнне фольгай паспяхова ўжываў і апісаў у сваіх працах Вільгельм Рэйх, лекар-псіхатарапеўт, вучань Фрэйда. У якіх жа выпадках рэкамендуецца фольга і якая фольга?

Фольгу бярэм звычайную харчовую алюмініевую (хоць у літаратуры апісаны спосабы выкарыстання меднай фольгі і іншых відаў), можна ўзяць фольгу ад шакаладу альбо ад гарбаты.

Эфектыўна лячэнне фольгай пры прастудзе: для гэтага трэба абгарнуць ступні ног некалькімі — ад 3 да 7 — пластамі фольгі, прычым паміж кожнымі суседнімі пластамі павінна быць пракладзена папера або баваўняная тканіна. Трымаць фольгу на ступнях на адзін раз можна ў сярэднім 40 хвілін, але не больш за 2 гадзіны. Працэдуру можна будзе паўтарыць гадзіны праз дзве. Пры кашлі пакласці трыкутныя кавалкі фольгі на грудзі і спіну. Пры болі зубоў трымаць на сківіцы 5-20 хвілін невялікі кавалак фольгі.

На працягу дня можна зрабіць 2-3 працэдуры. Працягласць лячэння — да 1 тыдня.

Лячэнне фольгай ужываецца таксама і пры іншых захворваннях: радыкуліце, шыйным астэахандрозе, міязіце, шпоры. Пры гэтым фольгу накладваюць на балючае месца і замацоўваюць. Ёсць добрыя вынікі па лячэнні падагры з дапамогай фольгі. Вялікі палец трэба абгарнуць фольгай і замацаваць павязкай. Лечаць і хваробу Бехцерава з дапамогай меднай фольгі. Балючыя костачкі на вялікіх пальцах ног (падагру) лечаць проста абкручваючы вялікі палец фольгай (бліскучай паверхняй на балючае месца) і замацоўваючы бінтом.

Кітайскія лекары рэкамендуюць праводзіць курс лячэння фольгай на працягу 10-12 дзён. Затым зрабіць перапынак адзін-два тыдні, і можна курс паўтараць.

Але не заўсёды зручна на целе замацаваць фольгу, напрыклад для лячэння печані ці сэрца. Для гэтага выкарыстоўваецца «срэбны масток», які зручна накласці на балючае месца.

Бярэм кавалак лейкапластыру памерам 10 x 15 см і налепляем вертыкальна палоскі фольгі шырынёй 1 см праз 1,5 см, пакідаючы па ўсіх баках пластыру да 1,5 см для прылепкі да цела. Пры наклейванні палоскі фольгі на целе павінны быць размешчаны вертыкальна.

Такі масток можна прыляпіць на любую частку цела.

Выкарыстоўвайце фольгу і пазбаўцеся ад доўга мучыўшых вас боляў. Лечыце сябе і блізкіх! Сам я праверыў і рэкамендую!

Ясюк СТРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

## Дэбют

* * *

*Пушча, ты мая пушча.*
*Ты – зялёная зелень.*
*Шум тваіх лісцяў*
*Піша творы для мяне*

* * *

*Музыка – гэта вялікі шэдэўр.*
*Шэдэўр*
*– не заўсёды добрая музыка.*

* * *

*Дахаты,*
*Дахаты,*
*Дахаты трэба ісці,*
*Хутка дахаты ісці,*
*Капусту квасіць.*
*Квасіць.*
*Квасіць.*
*Квасіць.*

***Міхась Сахарчук*** *– лаўрэат III месца ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы, Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## ЧАМУ КОТ ПАСВАРЫЎСЯ З МЫШКАЙ
*(літоўская казка)*

Аднойчы цар жывёльнага свету паклікаў да сябе ўсіх звяроў. У той час кот і мышка жылі разам і сябравалі. Іх таксама запрасілі. Усе ведаюць, што каты любяць паспаць. Кот таксама пра гэта ведаў і ён папрасіў у мышкі:

— Абудзі мяне, калі прыйдзе час ісці ў палац на сход.

Мышка на гэта:

— Спі спакойна, дружа, абуджу!

Кот заснуў. Раніцай на другі дзень мыш падарвалася з пасцелі, паснедала і пашыбавала ў палац. Калі яна адтуль вярнулася, прачнуўся кот і пытае:

— У колькі гадзін сёння сход звяроў?

Мыш засмяялася і кажа:

— Калі ты спаў, усё скончылася.

Здзівіўся кот і пытае:

— А чаму ты мяне не абудзіла?

— Забылася! — адказала спакойна мыш.

Кот зазлаваўся і крыкнуў:

— Тады навошта ты абяцала мяне абудзіць? Ты ашуканка! Нельга табе верыць!

Ён ухапіў мыш і з'еў яе. З гэтай пары каты перасталі сябраваць з мышамі.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**





Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Магда Бляўская

Магду Бляўскую, лаўрэатку сёлетняга конкурсу „Пазнай Беларусь", спатыкаю ў Гміннай бібліятэцы ў Нараўцы. Магда атрымала вылучэнне ў намінацыі «Сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям'і"». Пытаю пра змест вылучанай працы.

— Я напісала невялікае апавяданне пра шлюб маёй сястры — пра выезд з хаты і ейны беларускі народны ўбор. Былі гэта саян, вышываная кашуля, безрукаўка і вянок.

Магда закончыла першы клас нараўчанскай гімназіі. Ёсць і план далейшай вучобы — гэта Гайнаўскі белліцэй. Магда любіць пісаць і чытаць, асабліва цікавіцца паэзіяй. Піша ў „Зорку", удзельнічала ў Сустрэчах „Зоркі"; сёлета працавала ў рэдакцыі газеткі „Вокны Беларусі". **(ав)**

## УВАГА КОНКУРС!
## № 32-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 16 жніўня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**З вусамі,**
**а не стары.**
**Зайздросныя вочы.**
**За што-небудзь на двары**
**учапіцца хоча.**
**Хопіць хітрасці на трох,**
**Ну на тое ж ён...**
**Г....**

**Не сыдзе з месца**
**Ні на крок,**
**Зарыўшыся ў пярыну.**
**Цярэбіць ціхі вецярок**
**Ягоную чупрыну.**
**А возьмуць за чупрыну**
**Ды выцягнуць з пярыны —**
**Пачырванее, нібы рак.**
**Вядома хто гэта...**
**Б....**

(Рыгор Барадулін)

**Адказ на загадкі № 26/27-15: гусі, бабры. Узнагароду, сумку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграў Куба Іванюк з Гайнаўкі. Віншуем!**

# Выхаваць людзей лепшых за сябе!

## Інтэрв'ю з Валянцінай Бабулевіч, настаўніцай беларускай мовы ў бельскай „тройцы", звязанай ад пачатку з Сустрэчамі „Зоркі".



Малюнак «Валянціна Бабулевіч» Элізы Матус

„**Сустрачанскія навіны":** — *Кім Вы хацелі стаць у дзяцінстве?*

**Валянціна Бабулевіч:** — Я заўсёды хацела стаць настаўніцай. А чаму? Таму, што я любіла дзяцей. У Кленіках, адкуль я родам, вакол былі маладыя сем'і, якія мелі дзяцей. Калі іх бацькі ехалі ў поле, я толькі чакала, каб мяне паклікалі пільнаваць дзетак. Таксама да адной бабулі прыязджалі ўнучкі з Беластока. Я любіла з імі гуляць, апекавацца імі. Бабуля гэтых дзяцей прадказала маю прафесію. Яна часта паўтарала: — *Ты, Валя, будзеш настаўніцай!* Гэта было тады, калі я яшчэ ў школу не хадзіла.

У часы дзяцінства мы ўсе любім гуляць у школу. Я ўвесь час хацела быць настаўніцай. Памятаю яшчэ настаўніцу рускай мовы, якая жыла насупраць нашай хаты. Мы хадзілі разам у лес за грыбамі і яна мне многа расказвала пра прафесію настаўніка. І пэўна па гэтых прычынах я стала настаўніцай.

... Але мушу вам сказаць, што ніколі я не думала, што буду настаўніцай беларускай мовы. Наадварот, мяне цікавіла матэматыка, а тое, што я пайшла вучыцца на беларускую філалогію, гэта заслуга прафесара Аляксандра Баршчэўскага. Ён прыехаў да нас у ліцэй. І проста так цікава расказаў пра беларускую філалогію, што аж чатыры асобы з нашага класа выбрала гэтую спецыяльнасць.

**Сн:** — *Як Вы ўспамінаеце сваіх настаўнікаў беларускай мовы з дзіцячых гадоў?*

**ВБ:** — Беларускую мову ў нас, у Кленіках, вяла спадарыня Краўчук. Яна была таксама маёй выхавацелькай. У нас усе вучыліся беларускай мове. Я глядзела на беларускую мову як на кожны іншы прадмет. Вядома, у гады маёй вучобы, усе вучні гаварылі на мове, на якой усе размаўлялі ў вёсцы. Больш праблем было з польскай мовай, мы карысталіся ёй толькі на ўроках. А беларускую мы ўспрымалі натуральна.

**Сн:** — *Ці Вашы вучні ахвотна вывучаюць беларускую мову?*

**ВБ:** — На гэтае пытанне мусілі б адказаць мае вучні. Бывае па-рознаму. Я не наракаю. Так як і вы, некаторыя любяць матэматыку, іншыя любяць польскую мову. У нас няма праблемы — хочаш ці не хочаш — у „тройцы" ўсе вывучаюць беларускую мову. Заняткі бываюць розныя, так як настрой у людзей. Потым чалавек становіцца дарослым. Калі ён застаецца з беларускім словам, я вельмі задаволеная. У мяне быў вучань, у якога была цяжкая сямейная сітуацыя і праблемы з навукай. Яго забралі з нашай школы і ён быў вымушаны пабываць у нецікавым месцы. Аднак на Дзень настаўніка ён заўсёды перадае мне пажаданні і кветкі. Такі жэст больш цешыць чым узнагарода куратара ці медаль ад самога прэзідэнта. Праца настаўніка цяжкая. Я не ўмею адлучыць працы ад хатніх спраў. Я мушу ў хаце выгаварыцца, адрэагаваць. Часам і муж на мяне крычыць, — навошта прыношу праблемы школы дахаты! А на другі дзень ён прыходзіць са школы і пачынае тое ж... Мы абое настаўнікі, так што мы адзін аднаго разумеем. Толькі шкада мне маіх дзяцей. Калісьці мая дачка сказала мне ў злосці: „Ты мела час на чужыя дзеці, а для нас не!". І гэта па сутнасці пэўная частка праўды. У нас вялікая школа і часам былі такія дзеці, якіх трэба было ратаваць. Часам трэба было пазваніць на паліцыю. Я перажывала праблемы сваіх вучняў. Ведала, што трэба ім дапамагчы.

**Сн:** — *Як пачалася Ваша прыгода з Сустрэчамі „Зоркі"?*

**ВБ:** — Гэта вельмі цікавая справа. Я зусім выпадкова трапіла на працу ў „тройку". Дырэктарам быў спадар Васіль Ляшчынскі, якога людзі вельмі любілі і шанавалі. Спачатку я працавала ў святліцы. Спадар Ляшчынскі цаніў ангажаванасць настаўнікаў, бачыў, калі нехта працаваў пасля ўрокаў. Пасля я стала настаўніцай беларускай мовы і мае вучні пісалі ў „Зорку". Калі пачаліся Сустрэчы „Зоркі", спадарыня Ганна Кандрацюк пазваніла мне ў школу і папрасіла выбраць здольных вучняў. На першыя Сустрэчы паехаў, між іншым, Міхась Сцепанюк, той самы журналіст Радыё Беласток, які зараз працаваў з намі на 29 Сустрэчах. Дырэктар Ляшчынскі ад пачатку нас заахвочваў і падтрымліваў. Гаварыў, што Сустрэчы „Зоркі" гэта файная і важная ідэя. Потым Ганна запрасіла мяне ў якасці апякункі. Дырэктар сказаў: „Валя, для такой справы трэба ехаць!". А мне вельмі спадабаліся першыя Сустрэчы ў Бандарах. Яшчэ разам са мной паехала старэйшая дачка. Пасля на Сустрэчы стала ездзіць і малодшая. Мушу вам сказаць, што мае дзяўчаты, сёння ўжо дарослыя людзі, запамяталі гэтыя паездкі як самыя файныя ў жыцці. Старэйшая дачка перахоўвае размаляваную кашульку з надпісам „Зорка". Так што на Сустрэчы я прыязджаю з вялікай ахвотай. Не ведаю толькі чаму спадарыня Ганна выбрала якраз мяне.

**Сн:** — *Ці пасля Сустрэч дзеці інакш да Вас ставяцца?*

**ВБ:** — Не. Я думаю, што не. Я на Сустрэчы не выбіраю выпадковых вучняў.

**Сн:** — *А як Вы адчуваеце сябе, калі чуеце сваіх вучняў па радыё або чытаеце іх допісы ў „Зорцы"?*

**ВБ:** — Я тады шчаслівая. Я ганаруся поспехамі маіх вучняў. І думаю, што добры настаўнік гэта такі, які ўмее выхаваць людзей лепшых за сябе. У мяне ёсць такія вучні.

***Гутарку правяла і апрацавала рэдакцыя „Сустрачанскіх навін".***

*Крыстыян СТОЦКІ*
*Гімназія ў Міхалове*

### Верш

*Эй! Ты! Чытаеш вершы?*
*Ведаш, калі яны найпрыгажэйшыя?*
*Калі чытаеш іх для прыемнасці,*
*Каб мець новыя вартасці.*
*А не калі іх Табе чытаць кажуць,*
*Гэтая асоба — вялікі лось.*
*Помні чалавеча! Любіш чытаць?*
*Дык чытай вершы!*



*Клаўдзія Галінская*
*— „Сустрачанскія навіны"*

### Я люблю чытаць

*Я люблю чытаць.*
*Калі чытаю, у мяне мой свет,*
*Толькі мой.*
*У мяне прыгоды такія,*
*Што я ў гэтым свеце*
*Імі жыву.*
*А калі я закончу кніжку,*
*Навокал так брыдка і сумна.*
*Я люблю чытаць*
*Усё тады вясёлае, цудоўнае,*
*Як у маіх марах.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 32-15

Jan, Flora, Szafa, Niebo, Łasica, Ocean, Kubuś, Marzenie, Wąs, Język, Żagiel, Ar, Paraskiewa, Zapach, Ara

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28:**

Шум, грош, мэта, лета, ар, рыба, аса, акно, арт. Шаг, сад, мера, гэты, табар, акт, штуршок.

Узнагароды, сумкі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага і **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

# Юбілейны фестываль

Юбілейны фестываль шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка", які праходзіў 24-26 ліпеня ў Чаромсе, па-за намі. Арганізатарамі гэтай цыклічнай імпрэзы былі фолькавы гурт „Чарамшына" і Таварыства любіцеляў народнай культуры, а дакладней кажучы — лідары фолькавай групы Барбара і Міраслаў Самасюкі. Мерапрыемства пачалося ў пятніцу ў 12 гадзін з канферэнцыі „Культура — народ — этнічнасць на памежжы Еўропы і свету". Суарганізатарам канферэнцыі быў Універсітэт у Беластоку. У 18:30 адкрылася выстаўка „Бежанства. Незвычайная гісторыя звычайных людзей". Выстаўку падрыхтаваў Белавежскі нацыянальны парк у супрацоўніцтве з парталам biezanstwa.pl.

Ужо зранку пляцоўка перад Гмінным асяродкам культуры бурліла жыццём. Купцы ставілі латкі з цацкамі, ласункамі, марожаным, пражанай кукурузай, вырабамі народных майстроў. Прылаўкі пад парасонамі з лагатыпам піва маркі „Зубр" расставіў піваварны завод. Дзве трыбуны з лаўкамі для сядзення чакалі публіку. А гэтая сёлета не падвяла. Задбалі пра гэта арганізатары мерапрыемства. „Чарамшына" ў сацыяльнай сетцы „Фейсбук" загадзя змясціла праграму юбілейнага фестывалю і інфармацыю аб начлежнай базе. Мазавецкая чыгунка пяты год прывяла ў рух адмысловы цягнік для фестывальных гасцей (бясплатны праезд) з Варшавы-Усходняй у Чаромху. Цягнік адправіўся з Варшавы ў пятніцу ў 15:20, а з Чаромхі вярнуўся ў нядзелю а 23:00. Да афіцыйнага адкрыцця фестывалю пляцоўка запоўнілася да апошняга месца. Так шматлікага натоўпу наведвальнікаў імпрэзы Чаромха не бачыла.

Канцэрт пачаўся на адвячорку з невялічкім спазненнем — пятнаццаць хвілін перад восьмай. Вядучы Станіслаў Яскулка, гураль у народным касцюме, першнаперш запрасіў на сцэну войта Міхала Врублеўскага, дырэктара Гміннага асяродка культуры Барбару Кузуб-Самасюк, падляшскага ваяводу Анджэя Мэера, віцэ-маршалка Падляшскага ваяводства Мацея Жыўну ды члена праўлення Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскага, затым перадаў голас Міхалу Врублеўскаму. Войт пасля прывітання гасцей сказаў наступнае:

— Сёння адзначаем незвычайнае свята — юбілей ХХ-годдзя Фестывалю шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка". А ўсё пачалося з 1993 года, калі двое амбітных чарамшан Бася і Мірак Самасюкі заснавалі гурт „Чарамшына". З цягам гадоў калектыў дабіўся значных поспехаў. Выдаў шэсць дыскаў. У 2004 годзе альбом „Hulaj póki czas" інтэрнаўтамі быў абраны фолькавым кампакт-дыскам года ў плебісцыце „Віртуальныя гуслі", а кампакт-дыск „Uśmiechnij się" ў 2009 годзе, у час такога ж галасавання, заняў другое месца і першае месца за найлепшую вокладку. У 2004 годзе „Чарамшына" рэалізавала музычны праект з беларускім музыкантам Тодарам (Зміцерам Вайцюшкевічам), прысвечаны Белавежскай пушчы, а ў 2010 годзе выдалі яны дыск „што на сэрцы...". Калектыў канцэртаваў у Італіі, Нямеччыне, Францыі, Швецыі, Бельгіі, Галандыі, Расіі, Венгрыі, Літве, Латвіі і ў Непале. Прэзентаваўся ў шматлікіх радыё- і тэлеперадачах. Ад дзевятнаццаці гадоў „Чарамшына" з'яўляецца арганізатарам і заадно гаспадаром фолькавых сустрэч „З вясковага панадворка". Мерапрыемства дасягнула рангу міжнароднага фестывалю. Сёння адзначаем дваццацігадовы юбілей. З гэтай нагоды перakазваю юбілярам святочныя віншаванні ды жадаю самых лепшых поспехаў на культурнай ніве.

Падобныя пажаданні (і падарункі) на рукі дырэктар Гміннага асяродка культуры Барбары Кузуб-Самасюк перадалі: ад Ваяводскай управы — падляшскі ваявода Анджэй Мэер, ад Маршалкоўскай управы — віцэ-маршалак Мацей Жыўна і член управы Ежы Ляшчынскі. Адмысловы падарунак шматгадоваму вядучаму Станіславу Яскулку ўручыў Мацей Жыўна, а Міраславу Самасюку, прадстаўніку каманды „Д-р Туш" уручыў вялікі Кубак чэмпіёна свету па балотным футболе.


Ганаровыя госці фестывалю

— Чаромхаўскай гмінай упраўляю з першых дзён заснавання „Чарамшыны", — сказаў пазней войт Міхал Врублеўскі. — І ганаруся тым, што выпала мне на долю разам з калектывам адзначаць сёння юбілей. За гэты давер выказваю чаромхаўскай грамадскасці шчырае дзякуй!

Першым на сцэне выступіў гурт з Беларусі „Todar & WZ Orkiestra". У амаль гадзінным канцэрце прэзентаваліся песні вядомага чэшскага барда Яраміра Нагавіцы, зразумела, на беларускай мове. У рэпертуары былі даўнейшыя фальклорныя песні: „Маланка", „Данс-макабр", „Як бралі мяне ў салдаты", „Камета", „Песня аб старасці" і народныя напевы. Гэтаму жанру дала пачатак песня запісаная ў ходзе майстар-класаў у час вывучэння белага спеву на фолькавых сустрэчах „А чыі то волы", а закончыўся вядомай песняй „Бывайце здаровы". Канцэрт успрымаўся публікай бурнымі апладысментамі пасля кожнага нумара. Развітваўшыся з публікай, Зміцер Вайцюшкевіч, прыкмеціўшы фанаў з Беларусі і Украіны, прывітаў іх воклічам: „Жыве Беларусь! Слаўся Украіна!". У далейшым ходзе фестывальнага канцэрта выступілі айчынныя гурты: „Daab", „dj Woj" і „Чарамшына".

У суботу ад 9-й да 18-й гадзіны ва ўрочышчы Каганка былі арганізаваны спаборніцтвы лігі чэмпіёнаў па балотным футболе.


Адкрыццё фестывалю. Выступае войт Мікалай Врублеўскі

У 11 гадзін на фестывальнай пляцоўцы пачаліся майстар-класы па брэтонскіх танцах (вучыў калектыў „Šlivo Vitsă"), лірычным спеве (Яцэк Галас), вырабах з лямцу (Дарота Сульжык), саломапляценні (Ніна Яфімюк), ганчарстве (Анна Маркевіч і Юрка Федарук). Адбыліся таксама мастацка-рукадзельныя заняткі для дзетак — ткацкія і арыгамі — вядучымі былі аніматары з Беларусі. У 16:30 прэзентаваўся дакументальны фільм Юрыя Каліны „Сейбіт", героем якога з'яўляецца студзівоdскі сейбіт беларускай традыцыі і культуры Дарафей Фіёнік.

Суботні канцэрт пачаўся ў 18 гадзін выступам гуртоў „Yoksel Moksel" (Францыя), „Йорий Клоц" (Украіна), „Boban i Marko Marković Orchestra" (Сербія) і „Addictive TV" (Вялікабрытанія). У час суботняга канцэрта вечарам прайшоў лівень і ў выніку атрымаўся перапынак у выступах. Такі сюрпрыз натура дарыць удзельнікам фолькавых сустрэч у Чаромсе амаль штогод. Пасля гадзіннага перапынку канцэрт доўжыўся далёка за поўнач.

У нядзелю, 26 ліпеня, пасля суботняга ліўню, стаяла цёплае надвор'е. У завяршальны дзень фестывалю арганізатары падрыхтавалі ўдзельнікам фолькавых сустрэч багатую ды разнародную праграму. У 11 гадзін пачаліся майстар-класы. Зацікаўленне — памяркоўнае. У 13 гадзін прэзентаваліся стравы падляшскай рэгіянальнай кухні. У конкурсе змагалася 14 каманд, якія рэкамендавалі 37 страў. Адмысловае журы, узначальванае Янам Куранем, унукам светлай памяці Яцка Кураня — ганаровага члена „Чарамшыны", і Збышкам Кмецам, 1-е месца прызначыла камандзе „Спадчына" з Высокага (Беларусь) за посныя марынаваныя галубцы, 2-е — сужонству Марыі і Юрку Сульжыкам за рысавы суп, 3-е — Лукашу Леанюку за ядлоўцавае піва. Вылучанымі былі стравы Уршулі Савіцкай — квашанае малако, Гражыны Астапковіч — палачкі „ценькі" ды Монікі Алексяюк — піррожнае „Марцінэк". Кожнаму ўдзельніку ўручаны былі падарункі, прызначаныя Гміннай управай.


„Спадчына" – лаўрэат кулінарнага конкурсу

У 14 гадзін адбылася аўтарская сустрэча з Пётрам Нестаровічам, аўтарам кніжкі „Цудоўная". З таго, што я прыкмеціў, у сустрэчы ўдзельнічалі прыезджыя фаны фолькавых сустрэч і яны вялі спрэчкі з аўтарам, які ставіў ім свой аўтограф на кніжцы. Даволі вялікае зацікаўленне (таксама сярод гасцей), выклікаў другі фільм Юрыя Каліны „Архімандрыт" аб пустэльніку з Адрынок. Зала была набітая біткам. У час дэманстрацыі фільма царыла цішыня. Сядзячая побач мяне жанчына запытала проста: „А што гэта за вёска і дзе яна знаходзіцца?"

У мастацкай частцы ў 17 гадзін праводзіўся конкурс ігры на губных гармоніках. Удзельнічала пяць музыкантаў — двух з Беластока і па адным з Прушкова, Ольштына і Лукова-Любельскага. Кожны з удзельнікаў прэзентаваўся па 10 хвілін. Варта адзначыць, што прэзентаваныя творы выконваліся на майстэрскім узроўні. Журы пад старшынствам вядомых музыкаў Бартоша Лэнчыцкага і Лукаша Вішнеўскага 1-е месца прызначыла Анджэю Войтасю з Лукова, 2-е — Мечыславу Баркоўскаму з Беластока і 3-е — Станіславу Салецкаму з Прушкова. Затым выступілі два айчынныя гурты: „Zawołany Skład Weselny" і „Kraków Street Band". Выступы праходзілі пры памяркоўнай прысутнасці публікі. Значная група прыезджых вярнулася ўжо дамоў. Затым прысутнічалі чарамшане. Маім кампаньёнам найбольш спадабаліся выступы музыкантаў, якія ігралі на губных гармоніках, і калектыў „Zawołany Skład Weselny". Варта адзначыць, што вялікім зацікаўленнем у суботу і нядзелю карысталіся майстар-класы па брэтонскай і інданезійскай кухні. У нядзельным канцэрце ўдзельнічаў гайнаўскі стараста Міраслаў Раманюк з жонкай.

Афіцыйна юбілейны ХХ Фестываль шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка" закончыўся (апрача майстар-класаў, заняткі якіх закончыліся з канцом ліпеня). Варта было пабываць у Чаромсе на сёлетніх „фольках". Шмат было атракцыёнаў ды вясёлай забавы. Затым да чарговай сустрэчы!


Вялікім прызнаннем публікі карыстаўся „Zawołany Skład Weselny"

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА



# Пранеслася стыхія

Каля аўтобуснага прыпынку ў Рыбалах тройка вяскоўцаў сядзіць на вулічнай лавачцы, перад імі мікраларок з агароднінай. Пытаю іх пра нядаўнюю буру, што пранеслася і каля іхняй вёскі. Ах, так, навальніца была такая, што суседняй хаты не было відаць. А па дарозе ў Паўлы вырвала ўсе бярозы.

Кіруюся на згаданую дарогу ў бок Паўлаў. Сапраўды, шмат там паваленых дрэў, і то даволі магутных, па метры ў абхваце. Не ўсе бярозы, ды і не толькі бярозы. У некаторых дрэў не вытрывалі напору буры ствалы — яны пераламаны на розных вышынях, пад некаторымі зямля не ўтрымала дзесяцігоддзямі зжытых з ёю каранёў, а ў некаторых не вытрымалі карані. Час ад часу лес выглядае так, быццам ахапіла яго нейкая паніка і дрэвы, так як і ў такіх абставінах людзі, кінуліся захіліцца ад стыхіі, прыгнятаючы пад сябе суседзяў у нядолі, кладучы іх і сябе покатам. Некаторыя дрэвы выстаялі напор буры, але страцілі сваю стройнасць — пахіліліся. І выглядаюць так, быццам аплаквалі сваіх таварышаў нядолі, што сталі ахвярай стыхійнага гвалту. Найбольш пацярпелі бярозы і сосны; „партызанскія сёстры" ў папулярнай калісь песні, пакідаючы пад сваімі каранішчамі ямы — амаль гатовыя зямлянкі... Гэта пабач дарогі, бо дарога ўжо расчышчана. Далейшы ад дарогі лес выглядае так, быццам яго бура не кранула, быццам зрабіла толькі такую прыдарожную паказуху. Хаця дзе-нідзе паказваюцца і ў сцяне лесу пагнутыя ствалы бяроз ці хвоек.

Перад Паўламі надта рэдкая карціна: высокі крыж, а на ім прыпыніўся бусел, мо задумаўся над сваім бусліным лёсам, а мо — як арол ці сокал — выглядаў адтуль нейкага куска свайго буслінага „насушчнага" хлеба ў траве. Непадалёк паветка аўтобуснага прыпынку з раскладзенай у ёй неабнаўляльнай пасцеллю — няўжо нейкая бяда выгнала каго туды?..

У Паўлах два дрэвы ляжалі на абочыне вуліцы. Перад адной з хат тройка вяскоўцаў. Падыходжу да іх, цікаўлюся слядамі нядаўняй стыхіі. Гэта яна менавіта тут нанесла свой галоўны ўдар — сарвала з хаты дах. Марыя Галубоўская, уласніца хаты:

— Двойчы быццам затрашчала нешта зверху. Сарвала пэўна дах, кажу мужу. Ён выглянуў з хаты, але кажа, што ўсё на месцы. А я заглядаю ў кухню, а там ужо поўна вады. Дах сарвала з аднаго боку, з поўначы, а з поўдня крыху не стала ветру сілы, адно лёгка мацуючыя кроквы цвікі паддаліся. То людзі прынеслі нам пакрывалы і пажарнікі накрылі імі хату ды больш змацавалі тую палову даху, што асталася. Пажарнікі мясцовыя, іх пяцярых у нашай камандзе. А звонку пажарнікі не маглі прыехаць — дарогі былі завалены дрэвамі ды і тэлефоны не працавалі, не было святла. Мая дачка ў Беластоку, не магла да мяне дазваніцца, села ў машыну і рушыла ехаць, але не было праезных дарог. Цяпер чакаю страхавога таксатара, які, аднак, не спяшае...



У Паўлах толькі хата спадарыні Марыі пацярпела, іншыя хаты ўстаялі. Крыху паднішчаны некаторыя гаспадарчыя будынкі, аднак у іх нічога каштоўнага не захоўвалася — іх гаспадары гаспадарак ужо не абрабляюць. Мае суразмоўцы дадалі, што значныя знішчэнні пацярпелі недалёкія Стральцы...

Кіруюся ў бок могілак, што за вёскай, раней даведаўшыся, што стыхія нанесла там вялікія шкоды. У канцы вёскі, што з боку могілак, крыж, а на ім надпіс: „Господи силою Твоего креста сохрани нас Господи от всякой болезни и от всякого зла" — добранька было б жыць у раю; без усялякага зла... А на могілках адбылося нешта накшталт Страшнага суда. Шмат магутных дрэў павалілася — павaліліся яны на намагільнікі, пашкоджваючы іх у рознай ступені. Ды што там намагільнікі — яны ж на зямлі, але стыхія сягнула і найвышэйшага пункту могілак — адно з дрэў упала на толькі што абноўлены купал тамашняй царквы, зачапляючы навенькі крыж і загінаючы яго з вертыкальнай пазіцыі ў гарызантальную; сам даволі вялікі медны купал здаецца быць непашкоджаным...

Вікіпедыя: „Inicjatorem wzniesienia wolnostojącej cerkwi na cmentarzu w Pawłach był proboszcz parafii w Rybołach ks. Lew Markiewicz. Budynek został wzniesiony w 1824 jako świątynia unicka. Początkowo jej patronem był św. Jozafat Kuncewicz, jednak w prasie cerkiewnej z 1858 znajduje się informacja o nowym wezwaniu — św. Jana Teologa. Wcześniej, w latach 40., budynek został wyremontowany, wymieniono wówczas znajdujący się w nim ikonostas. Remont kapitalny budynek przeszedł w 1869, za pieniądze parafian. W 1883, po kolejnej przebudowie, cerkiew została ponownie poświęcona. Znalazły się w niej nowe dzwony, zaś nad wejściem usytuowano cebulastą kopułę. Wzbogacane było również wyposażenie obiektu o świeczniki, zaś w 1901 o ikony św. Pantelejmona i Matki Bożej, napisane w monasterze św. Pantelejmona na Górze Athos. W 1911 obiekt został pokryty blachą cynkową. W okresie bieżeństwa cerkiew została porzucona, co doprowadziło do zupełnej dewastacji jej wnętrza. Staraniem prawosławnych mieszkańców okolicy została jednak odnowiona w kolejnych latach. W 1964 Katalog zabytków sztuki w Polsce odnotował istnienie w niej zespołu zabytkowych ikon z XVIII i XIX wieku, w tym wizerunków Pantokratora, św. Jana Teologa, Matki Bożej, św. Pantelejmona, św. Izydora, św. Jerzego, św. Rozalii i św. Katarzyny Aleksandryjskiej. W latach 80. obiekt został zelektryfikowany, zaś w latach 90. przeszedł kolejny remont. W 1993 cerkiew padła ofiarą kradzieży, tracąc 9 ikon". Цяпер царква праходзіць чарговы рамонт і выпадае спадзявацца, што не ўнясе ён істотных змен у вышэйпрыведзеную даведку.

Каля Паўлаў пацярпелі не толькі могілкі; па дарозе ў напрамку Стральцоў бура паклала таксама абшырны палетак залацістай пшаніцы, але не абы-як — роўнымі палосамі. Там наперамен цяпер палосы ляжачага і стаячага збожжа, быццам колеры на амерыканскім сцягу. Дагэтуль здавалася, што толькі такія як у Амерыцы знішчальныя тарнада прыходзяць да нас, але ж, здаецца, і некатарая сімволіка; пра іншыя захапленні не згадваючы...

У Стральцах, якія афіцыйна называюцца Давідавічамі, спатыкаю пажылога мужчыну. Даведваюся, што ў канцы вёскі з аднаго гаража сарвала дах: бляху з кроквамі. На вуліцы побач бура адламала рала ад немаладога каштана; парадак там навялі пажарнікі. Вуліца ў Стральцах брукаваная...

— Жонд не хоча нам даць асфальту, — наракае мой суразмоўца. — Залілі асфальт на дарозе ў Паўлы, далей трэба ў Рыбалы. Але ў Астраўкі, адкуль проста ў гміны Заблудаў, дарогі не асфальтавалі.

На канцы вёскі сапраўды ляжыць бляха, сарваная з даху драўлянага гаража. Крыху далей стары вывадны каменны крыж і заліты фундамент пад новы. Акурат шпацыравала там вельмі пажылая бабулька, слабенькая ўжо:

— Прыйшла сюды, пакуль яшчэ крыху сіл асталося, бо можа ўжо больш не змагу, — прызнаецца. Інфармуе мяне, што неўзабаве, „на Барыса і Глеба", паставяць там новы крыж і на ўрачыстасць з'едуцца бацюшкі з Гайнаўкі і Бельска...

Ад Стральцоў аж да Сацоў жвіроўка ў шпалеры паламанага голля ад прыдарожнай драўніны. Нейкі кіламетр перад Сацамі палетак ушчэнт паламанага трыццацігадовага сасновага лесу, быццам па тым палетку пракаціўся нейкі лясны каток. Каля саміх Сацоў быццам навальніца прайшла крыху цішэй, нават не сарвала ўсіх даховак са стаячай за вёскай стадолы. І між Сацамі і Жыўковам лесапавалу быццам менш.

Навальніца прайшла з нядзелі на панядзелак, на 20 ліпеня, калі Касцёл адзначае памяць старазапаветнага прарока Ілы. Вікіпедыя: „Согласно славянским народным легендам, опирающимся на книжную традицию, Илья был взят живым на небо. Святой ездит по небу на огненной колеснице. По украинским поверьям, солнце — колесо от колесницы Ильи-пророка, Млечный путь — дорога, по которой ездит пророк, запряжённой огненными конями, или на белом коне, отчего и происходит гром. Зимой Илья ездит на санях, поэтому грозы и грома не бывает. Сила Ильи-громовержца столь велика, что её приходится сдерживать: Бог возложил на голову Ильи камень в 40 десятин, сковал ему одну руку и ногу; сестра Ильи Огненная Мария скрывает от него день его праздника, иначе он от радости побьёт молниями весь свет; у св. Ильи есть только левая рука; если бы он имел обе руки, то перебил бы всех дьяволов на земле...". Хто ведае, ці прарок Ілья ўсё ж такі неяк не даведаўся пра сваё свята і адзначыў яго паводле славянскай народнай міфалогіі...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Спадчына

# Франук Грышкевіч на старонках «Студэнцкай думкі»

У 1920-1930-х гадах у Вільні выдаваўся цікавы грамадска-палітычны, навуковы і літаратурны часопіс Беларускага студэнцкага саюза «Студэнцкая думка». Часопіс выходзіў на беларускай мове. Яго рэдагавалі Ігнат Гагалінскі, Янка Шутовіч, Мікола Шкялёнак, Станіслаў Станкевіч, Міхась Якімец, а таксама Адольф Зянюк (1895-1938), які быў родам з Беласточчыны з мястэчка Сухаволя Сакольскага павета. Дарэчы, Адольф Зянюк быў першым рэдактарамі выдаўцом «Студэнцкай думкі».

Часопіс друкаваў хроніку найважнейшых падзей грамадска-палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцця ў былой Заходняй Беларусі, БССР, Чэхаславакіі, Латвіі, падрабязна асвятляў дзейнасць саюза, змяшчаў паведамленні аб працы Таварыства прыяцеляў беларусаведы, пра ўдзел вучняў Віленскай беларускай гімназіі ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе. Шмат увагі аддаваў Аб'яднанню беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе, гісторыі беларускага студэнцкага руху, зберажэнню і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Часопіс узнімаў праблемы філасофіі, культуралогіі і паліталогіі, нацыянальна-культурнага адраджэння, псіхалогіі. Змяшчаў таксама літаратуразнаўчыя і навуковыя працы, лекцыі, успаміны, паэтычныя творы, запісы вуснай народнай творчасці, апавяданні, рэпрадукцыі карцін. З друку выйшла 15 нумароў, з іх адзін быў канфіскаваны.

На старонках «Студэнцкай думкі» шмат гадоў друкаваўся Франук Грышкевіч (1904-1946) — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык, педагог, доктар філасофіі. Ён, як і Адольф Зянюк, быў родам з мястэчка Сухаволя. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і літаратурны факультэт Карлавага ўніверсітэта. З 1940 года загадваў беларускімі школамі Віленскай школьнай акругі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. У 1944 годзе ўдзельнічаў у II Усебеларускім кангрэсе, за што быў арыштаваны ў Вільні, пасля заняцця яе Чырвонай Арміяй.

Франук Грышкевіч актыўна друкаваўся на старонках многіх беларускіх выданняў.



Урад Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. Злева направа: Франук Грышкевіч, Васіль Русак, Вячаслаў Лаўскі, Адольф Клімовіч, Тамаш Грыб, 1926 г.

Асабліва актыўна ён супрацоўнічаў з часопісам «Студэнцкая думка». Ужо ў першым нумары «Беларускай думкі» (снежань 1924 г.) юнак з Сухаволі друкуе пераклад артыкула Аляксандра Ельскага «Адам Міцкевіч на Беларусі» з польскай мовы на беларускую. Гэты артыкул быў апублікаваны ў кніжцы, якая выйшла да 100-годдзя Адама Міцкевіча ў 1898 годзе.

У гэтым самым нумары часопіс публікуе і верш Франука Грышкевіча «Музей Івана Луцкевіча», напісаны аўтарам да пятых угодкаў смерці заснавальніка музея. Аўтар шчыра прызнаецца:

*Ты люстра нашых часаў волі,*
*Галоснай славы у сусвеце.*
*Ты сведак слаўных бойкаў ў полі,*
*Святым будзь, мёртвы! — просяць дзеці...*

У другім нумары «Студэнцкай думкі» (студзень 1925 год) Франук Грышкевіч публікуе свой новы пераклад з польскай мовы артыкула Антона Навіны (Антона Луцкевіча) «Падсведамае і сведамае ў «душы беларускай» Сыракомлі». Ён апублікаваны з падзагалоўкам «Паводле Антона Навіны «Przegląd Wileński» № 18-1924 год». Гэта адзіны вядомы нам прыжыццёвы пераклад польскамоўнага арыкула Антона Луцкевіча. Хаця Луцкевіч з'яўляецца таксама аўтарам публікацыі «Аб беларускай душы Сыракомлі»: (Уражанні з ушанавання 55-годдзя смерці паэта)», які быў апублікаваны ў штотыднёвіку «Przegląd Wileński» ў 1937 годзе (№ 9).

У гэтым самым нумары змешчаны і верш Франука Грышкевіча «Пяльгрым», які, дарэчы, не ўвайшоў у кнігу «Вяртанне да сваіх» (Беласток 1999).

Сакавіцкі нумар «Студэнцкай думкі» за 1926 год адкрываецца патрыятычным вершам Франука Грышкевіча «З народу мы...». У гэтым вершы аўтар заклікае быць заўсёды з народам, бо разам з народам «церпім мы адны за волю і свабоду». А тых, хто супраць народу, аўтар адганяе «проч ад нас». Дарэчы, у кнізе «Вяртанне да сваіх» (Беласток 1999), якую мне пашанцавала складаць, падборку вершаў Франука Грышкевіча я назваў «З народу мы...». Верш пачынаецца радкамі:

*З народу выйшлі і ў народ*
*Мы пойдзем поўны веры...*
*З народам пойдзем мы ўпярод,*
*Як верныя жаўнеры...*

Першы нумар «Студэнцкай думкі» за 1928 год публікуе артыкул Франука Грышкевіча «Думкі», які аўтар напісаў у Празе ў снежні 1927 года. Гэта студэнцкі роздум пра чалавечае жыццё, пра беларусаў. У сваім артыкуле ён пытаецца: «Дакуль гэта ў беларускіх газетах і літаратуры будуць пісаць, што славянскі апостал Кірыл стварыў і пісаў «кірыліцаю»? Чаму працы Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Менску выдаюць па-расейску? Чаму Беларускае навуковае таварыства не выдае, хаця б у год адзін раз, свае часопісы? Чаму аб ім мала хто чуе, калі аб украінскім, славацкім і сербалужыцкім усюды чытаць можна? Чаму нашыя школьныя падручнікі выдаюцца паводле пераўжытае сістэмы, калі мы ўжо ў Вільні маем людзей, якія добра знаюць педагагічны метад школы нашых дзён?.. Чаму ў нас няма камітэту апекі над магіламі памёршых Апосталаў нашага Адраджэння?.. Чыя тут віна? Хто тут вінен?.. Няма адказу, бо няма згоды...», — піша Франук Грышкевіч. Эх, дзядзька Франук! Гэтыя Вашы пытанні, хоць прайшло ўжо 88 гадоў, на Беларусі актуальныя і сёння. І сёння на іх мы адказаць не зможам. Таму, што, сапраўды, сярод беларусаў няма згоды і сёння!..

У 1929 годзе «Студэнцкая думка» апублікавала невялікую справаздачу аб чацвёртым з'ездзе Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА), які адбыўся ў 1928 годзе ў Празе. Сярод выступоўцаў быў і Франук Грышкевіч. Часопіс таксама паведаміў, што Франук Грышкевіч абраны сакратаром АБСА.

Сяргей ЧЫГРЫН



# http://www.philology.by

У адным з папярэдніх нумароў, што выйшаў 5 ліпеня, „Ніва" пісала пра філалагаў, якія неабыякава ставяцца да беларускай мовы і стварылі сайт philology.by. Акрамя той, зробленай аматарскім чынам, вэб-старонкі да беларускай філалогіі мае адносіны і сайт, што згодна свайму статусу, мусіць быць прывабным і насычаным самай апошняй інфармацыяй па данай тэматыцы. Гэта сайт філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ). Месціцца ён па адрасе **http://www.philology.bsu.by**.

Першае, што кідаецца ў вочы, калі адкрываеш на сваім камп'ютары інтэрнэт-прадстаўніцтва філалагічнага факультэта БДУ, гэта тое, наколькі па-сучаснаму і прафесійна яно зроблена. На прыцемненым фоне выявы па чарзе з'яўляюцца абвесткі пра факультэт і вучобу на ім. Тут жа ў асобным акенцы размяшчаюцца навіны. Праўда, апошняя з іх датуецца чэрвенем, што даволі дзіўна, бо лета гэта гарачая пара ўступных экзаменаў і навін, вартых публікацыі, мусіць быць дастаткова.

Філалагічны сайт, як і мае быць, змяшчае падрабязную інфармацыю пра факультэт, прычым на галоўнай старонцы. Тэкст носіць назву-запэўніванне альбо назву-катэгарычнае сцвярджэнне: „Дыплом філолага запатрабаваны!" Там ідзе апісанне гісторыі факультэта, пададзенае ад імя яго дэкана Івана Роўды. Адтуль мы можам даведацца, што філалогія ў БДУ з'явілася разам з адкрыццём універсітэта ў жніўні 1921 года. „Асновай філалагічнага факультэта на працягу ўсіх год яго дзейнасці з'яўляліся два аддзяленні — беларускай мовы і літаратуры і рускай мовы і літаратуры. З 1947 г. па 1967 г., перш, чым стаць самастойным факультэтам, у склад філфака ўваходзіла яшчэ і аддзяленне журналістыкі. З сярэдзіны 90-х гадоў факультэт пачаў актыўна развівацца, дабавіліся новыя спецыяльнасці: славянская, класічная, рамана-германская, усходняя, філалогія", — распавядаецца ў тэксце, дзе таксама адзначаецца, што ў розныя часы на філалагічным факультэце вучыліся такія зоркі беларускай літаратуры як Іван Мележ, Ніл Гілевіч, Іван Навуменка, Рыгор Барадулін.

Сёння на факультэце навучаецца больш як дзве тысячы студэнтаў, магістрантаў, аспірантаў з Беларусі і іншых краін, ёсць спецыялізаваныя кабінеты беларускай, украінскай, польскай, кітайскай і італьянскай філалогіі.

Што тычыцца непасрэдна вывучэння беларускай мовы, то пра гэта найбольш падрабязна распавядаецца ў рубрыцы „Кафедры", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення. Так, на факультэце дзейнічаюць кафедры сучаснай беларускай мовы, гісторыі беларускай мовы, гісторыі беларускай літаратуры, беларускай літаратуры і культуры, вучэбна-навуковая лабараторыя беларускага фальклору.

Варта адзначыць, што на факультэце гарнацца сваёй гісторыяй. Таму, акрамя расповеду пра яе ў тэксце ад дэкана, асобны гістарычны артыкул месціцца ў рубрыцы „Факультэт". Менавіта там распавядаецца, што ў 2006 годзе ў БДУ з'явіўся кабінет-музей беларускай народнай культуры.

Сайт філалагічнага факультэта БДУ мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую. Але здаецца, што менавіта для такой установы гэтая колькасць замалая.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

Адзін з пачынальнікаў нашай літаратуры



# 175 гадоў з дня нараджэння Альгерда Абуховіча

Адзін з першых беларускіх пісьменнікаў Альгерд Абуховіч, ён жа граф Бандынэлі, нарадзіўся 6 жніўня 1840 г. у мясцовасці Калацічы Бабруйскага павета (цяпер Глускі раён, Магілёўшчына). Паходзіў са шляхецкай сям'і Рышарда і Караліны Абуховічаў, маці была з італьянскага графскага роду Бандынэлі, адсюль і псеўданім паэта. У 1852-1854 гг. вучыўся ў Слуцкай кальвінскай гімназіі. Прыкладна ў 1855 г. выехаў за мяжу. Спачатку жыў у Жэневе, дзе ўзмацнілася яго цікавасць да кальвіністкага вучэння. Пасля перабраўся ў Францыю. Сустракаўся з вядомымі палітычнымі дзеячамі. У гэты час Абуховіч шмат падарожнічаў, пабываў амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах, удасканаліў валоданне англійскай, французскай, нямецкай і італьянскай мовамі. Пазней гэта вельмі дапамагло ў яго працы перакладчыка.

У канцы 1862 ці пачатку 1863 г. Альгерд Абуховіч вярнуўся ў Беларусь. Удзельнічаў у нацыянальна-вызвольным паўстанні. За гэта расійскай уладай быў высланы ў Сібір. Пасля вяртання імкнуўся раздаць сваю зямлю сялянам, але супраць узнялася ўся радня і пагражала абвесціць паэта вар'ятам. З-за гэтага пакінуў свой маёнтак, родны дом, парваў адносіны са сваякамі, забраўшы толькі кнігі з бібліятэкі, і з'ехаў. Нейкі час жыў у свайго сябра Расудоўскага ў маёнтку Курганы, а пасля пасяліўся ў Слуцку. Там займаўся рэпетытарствам, вакол яго ўтварыўся гуртох беларускай моладзі. З гэтай творчай плыні выйшла некалькі вядомых асоб, удзельнікаў беларускага незалежніцкага руху, у іх ліку Язэп Дыла і Пётр Карповіч.

Альгерд Абуховіч нароўні з Францішкам Багушэвічам — адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры. Вядомыя яго творы „Ваўкалак", „Старшына", „Сход", „Суд", „Воўк і ліса". Першыя дзве з іх надрукаваныя ў „Беларускім календары" на 1915 г. Пісаў Абуховіч у рэчышчы крытычнага рэалізму, часам у рамантычнай манеры. Пры жыцці не меў магчымасці друкавацца, таму захавалася толькі невялікая частка твораў. У байкі ўкладаў сатыру на пасляпэформенную Расійскую імперыю, узнімаў праблемы свабоды чалавечай асобы. Шмат перакладаў з рускай, польскай, заходнееўрапейскіх літаратур. Як перакладчык Абуховіч узбагаціў беларускую літаратуру творамі Гётэ („Фаўст"), Шылера („Разбойнікі"), Байрана, Дантэ, Гюго, Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча і іншых. Пакінуў пасля сябе мемуары, якія былі надрукаваныя ў газеце „Гоман" у 1916 г. Вёў дыскусію з Францішкам Багушэвічам пра дыялектную аснову беларускай мовы і пурызм.

Час ад часу Абуховіча ў Слуцку наведвалі доктар Янушэвіч, Расудоўскі, Машэўская, Узлоўская. Сваю бібліятэку і рукапісы Абуховіч аддаў Казіміру Аколаву, які жыў тады ў Слуцку і часта наведваў яго ў час хваробы. Пазней Аколаў пераехаў у Варшаву, а рукапісаў Абуховіча ніхто так і не знайшоў. За 18 гадоў сваркі паміж Абуховічам і роднай сястрой не было сустрэч, і толькі калі ўжо Альгерд цяжка захварэў, яна два разы наведала яго. Цяжкая хвароба абарвала жыццё паэта заўчасна. Памёр Альгерд Абуховіч 22 жніўня 1898 г. у Слуцку. Пахаваны на мясцовых могілках. Жонка яго памерла ў Пецярбургу ад сухотаў значна пазней. Глуханямая дачка пісьменніка жыла ў цёткі ў Пецярбургу.

Лекар Тодар Кулеша ва ўспамінах даў арыенціры магілы Абуховіча — яна непадалёк ад уваходнай брамы слуцкіх каталіцкіх могілак з краю злева.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# «Кірмаш зубра» з народнымі творцамі і музыкай

IX «Кірмаш зубра», арганізаваны 19 ліпеня ў гарадскім парку і амфітэатры ў Гайнаўцы, быў вельмі багатым па колькасці і разнароднасці прапанаванага рукадзелля, сувеніраў, харчавання і музычных выступленняў. Некаторыя народныя творцы наладзілі майстар-класы па рукадзеллі, у якіх прымалі ўдзел перш за ўсё дзеткі. На ўдзел у гайнаўскім кірмашы падалі свае заяўкі каля 130 арганізацый і прыватных асоб (амаль удвая больш, чым у мінулых гадах). Прыбылі яны з розных рэгіёнаў Падляшша і з-па-за нашага ваяводства. Народныя майстры прыбылі таксама з Пружанскага раёна Рэспублікі Беларусь. Кераміку прадаваў жыхар Украіны, а харчаванне — грамадзяне Літвы.

«Кірмаш зубра» пачаўся ў абед і закончыўся ноччу. Гайнавяне прыходзілі за пакупкамі і ахвотна глядзелі выступы народных калектываў. Спачатку выступалі яны, стоячы паміж прадаўцамі, а пасля ўсе выканаўцы запрэзентаваліся на сцэне амфітэатра. Паколькі падчас кірмашу было вельмі цёпла, мужчына, пераапрануты за гаспадара Белавежскай пушчы — зубра, не мог доўга хадзіць у сваім вельмі цёплым касцюме. Тыя, што хацелі сфатаграфавацца з «зубром», прыходзілі ў пачатку кірмашу. У палатцы Белавежскага нацыянальнага парку можна было даведацца многа пра зубра, які атаясамліваецца на свеце перш за ўсё з Белавежскай пушчай. Дзеткі ўдзельнічалі ў конкурсах, падчас якіх даведаліся, між іншым, чым корміцца зубр, дзе ён жыве і да чаго патрэбная «зуброўка».

— Я карыстаюся «зуброўкай», каб адпуджваць моль у хаце, але мужчыны прыпраўляюць ёю гарэлку, якая тады лепш смакуе, — заявіла Ева Мароз-Кэчынская з Новага Беразова, працаўніца Белавежскага нацыянальнага парку.

Ужо традыцыйна кавальскаму рамяству вучыў Васіль Галёнка з Гайнаўкі, які паказваў як калісь рабілі падковы і іншыя жалезныя вырабы неабходныя ў гаспадарцы. Прэзентацыю і вучобу праводзіў Музей кавальства з Гайнаўкі, якога ўласнік Станіслаў Мяжвінскі паказваў, як выплаўлялі жалеза ў сярэднявеччы. Тут затрымліваліся перш за ўсё мужчыны і маладыя хлопцы, якім цікавым было кавальскае рамяство. Пётр Леанюк з Руткі прадаваў каробкі, шкатулкі і іншыя вырабы з саломы.

— Выкананыя ўручную вырабы я прадаю тут штогод і крыху людзі купляюць, бо вырабы, якія выконваліся ў мінулым, сталі цяпер моднымі. На фэсты езджу рэдка, а вырабы найчасцей купляюць у мяне оптам гандлёвыя суполкі, — удакладніў Пётр Леанюк.

Дырэктарка Пружанскага дома культуры Ірына Гадуйка прэзентуе рукадзелле майстроў Пружаншчыны

Далей ад амфітэатра, які з трох бакоў быў акружаны прадаўцамі, можна было падвучыцца саломапляценню, ганчарскай справе і паспрабаваць вязаць кручком. Карункавае рукадзелле прадавала Малгажата Краўчык з Плянты, лаўрэатка конкурсных аглядаў рукадзелля «Гафт і карунка», арганізаванага Гайнаўскім домам культуры.

Восем народных майстроў-рукадзельнікаў прыехалі ў Гайнаўку з Пружанскага раёна. Дырэктарка Пружанскага дома культуры Ірына Гадуйка прывезла сваю разьбу па дрэве.

— Побач маёй разьбы, якой можна, напрыклад, упрыгожваць кватэры, мы прадаем вышыўку, пляценне з газетных трубак і вязаныя кручком вырабы. Гэты прыгожы роспіс на шкле, кветкі і сакральныя матывы выконвае наш народны майстар Марыя Кулецкая, а далей прадаецца вышыўка нашай Людмілы Паўлючук, — расказвала дырэктарка Ірына Гадуйка.

Сваё саломапляценне прадавала Раіса Баюра з Новых Засімавічаў Пружанскага раёна.

— Я, выконваючы саламяныя вырабы, карыстаюся народнымі і сучаснымі матывамі і сваімі аўтарскімі распрацоўкамі, — сказала Раіса Баюра, якая прыязджала на «Кірмаш зубра» ў мінулых гадах. — Мы рады, што можам прыехаць у Гайнаўку. Адзін год можна прадаць больш сваіх вырабаў, а іншым разам менш, але можам паказаць мясцовым жыхарам сваё беларускае рукадзелле.

Наўскос ад увахода ў гарадскі амфітэатр свае карціны прадаваў Мікола Яноўскі са Старога Беразова. Яго вялікімі алейнымі палотнамі захаплялася многа асоб, але куплялі толькі адзінкі. У выпадку мастака, які многа часу і энергіі ўкладвае ў выкананне адной карціны, продаж адной або дзвюх работ, гэта поспех.

— Тыя шматлікія гайнавяне, што сёння толькі паглядзелі на мае карціны, можа схочуць у будучыні купіць нейкую працу ў якасці падарунку для сямейнікаў або знаёмых, бо так бывала ўжо ў мінулым, калі гайнавяне прыязджалі да мяне, у Старое Беразова, за карцінамі, — заявіў Мікола Яноўскі.

— Мы выступалі ўжо на Гайнаўшчыне раней і нам тут падабаецца. Сёння вельмі добрая атмасфера і мы рады запрэзентавацца перад так вялікай публікай, — гаварылі дзяўчаты з танцавальнага калектыву «Капрыс».

Год назад амфітэатр быў яшчэ раскрыты, прыкрытая была толькі сцэна, а выканаўцы маглі пераапранацца ў мураваным будынку, што абапіраецца аб сцэну. Сёлета публіка сядзела ўжо пад вялікім дахам, які засланяў сядзячыя месцы падчас праліўнога дажджу пад канец мерапрыемства. Дах выкананы быў з выкарыстаннем еўрасаюзных і гарадскіх сродкаў, у рамках міжнароднага супрацоўніцтва. Прачакаўшы навальны дождж, людзі з пакупкамі пачалі разыходзіцца дамоў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Адгаданка

1. брытанская грашовая адзінка, 2. горад пры ўліцці Сажа ў Дняпро, 3. злакавы конскі ласунак, 4. востры край брытвы, 5. самец каровы, 6. горад у Латвіі каля пяцідзесяці кіламетраў на паўднёвы захад ад Рыгі, 7. адсутнасць асвятлення, цемра, 8. прыхільнік цынізму, 9. агароднінная расліна з ядомай цыбулінай з вострым смакам і рэзкім характэрным пахам, 10. галандская сталіца, 11. доўгі высокі земляны насып, 12. абласны горад на захадзе Расіі на рацэ Вялікая, 13. прылада, якою церлі лён, 14. ручная „мера” даўжыні, карацейшая за локаць, 15. Платон, беларускі пісьменнік (1903-1937).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | 3 | | | 4 | | | | | | | |
| | | | | | | | 5 | | | | 6 | 7 | 8 | |
| | | | 9 | | 10 | | | | | | 11 | | | |
| | | | 12 | | | | | | | | 13 | | | |
| | | | | | | 14 | 15 | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Вета, кісць, куду, мак, муць, пава, соль, уява, ціс, чад, шыя.

**Рашэнне:** Тады чалавек падумаць мусіць, як свая вош укусіць.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# 09.08 — 15.08

**(22.03. — 20.04.)** Пакажаш сваю бравурнасць. Смела дойдзеш да сваіх мэт. Хопіць табе самаўпэўненасці, справішся з канкурэнцыяй. Добрая форма. Дома добрыя весткі. 11-15.08. вельмі пільнуйся, з кім размаўляеш. Не кожны будзе абманшчыкам, але можаш няхоцькі ўкрунуцца ў інтарэс, і будзеш пасля шкадаваць. Слухай свайго розуму.

**(21.04. — 21.05.)** Адзінокаму Быку: каханне ўпадзе на цябе тады, калі перастанеш яго чакаць (можа, праз месяц, два, тры). Затое хтось з мінулага жыцця будзе табе дапякаць. Дома таксама не пазбегнеш дробных спрэчак. Кампанейскае жыццё набярэ новых колераў. Пасля 14.08. змяні спосаб лячэння — спрабуй новых тэрапій, лякарстваў. Ашчаджай і пільнуйся ад зладзюг.

**(22.05. — 22.06.)** З 11.08. рэйтынг асобы, на якую ты пакладаў надзеі, моцна ўпадзе. Можа, не ўсё акажацца страчаным, але напэўна не будзе гэта тое, што ты раней уяўляў. Сямейныя справы набяруць тэмпу. Выявіцца твая аператыўнасць. Можа падвесці цябе нейкая блізкая асоба, выявіць твае таямніцы. Добры час шукаць працу. 11-15.08. пастаў на розум і абавязковасць.

**(23.06. — 23.07.)** 9-13.08. лёгка будзеш наладжваць кантакты. Удасца спалучыць прыемнае з карысным. Справішся з нялёгкімі абавязкамі. У пары не шукай зачэпак. Сачы за сваім арганізмам — нейкі цяпер прапушчаны запальны стан пакладзе цябе ў ложак праз месяц. Рэгулярна варушыся.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш яшчэ санлівы, стомлены, падакучае табе стрававальны шлях, мігрэні і суставы. Але знакаміты час на сустрэчы з самім сабой, чытанне, развіванне хобі. З 11.08. схочацца табе параскідвацца грашыма; твая вера, што будзе не горш, дазволіць табе таксама добра зарабіць. А будуць вельмі карысныя нагоды! Ільвы, хацеўшыя змяніць працу, будуць мець добрую нагоду. З 13.08. пачнуцца ў цябе пазітыўныя змены

**(24.08. — 23.09.)** 12-16.08. нялёгка будзе цябе да чагосьці пераканаць. Хаця будзеш мець нагоды да наладжвання цікавых знаёмстваў сярод людзей з кантактамі і адкрытымі галовамі. 15-16.08. добры час для прагнуўшых зачаць патомка. Зафундуй сабе як найбольш адпачынку, бо не будзе найлепш з тваёй формай. Не адмаўляйся ад візіту ў лекара. На працы будзь сумленны і абавязковы, каб не чапляліся.

**(24.09. — 23.10.)** Не патрактуй цікава ідучага здаёмства як эксперыменту, бо страціш штосьці каштоўнае. Прабудзі ў сабе цёплыя пачуцці і дакладна прыглядзься асобам з якімі сустракаешся. З новых знаёмстваў прынамсі з аднаго будзе трывалае сяброўства. На працы, калі не плануеш павышэння, не стамляйся. На рабоце будзе лявіва і ніхто нікога не будзе паганяць, але не пераборшчвай, бо шэф можа мець горшыя дні.

**(24.10. — 22.11.)** Не пераборшчвай у спортах і разгружванні энергіі — цяпер то ты будзеш рызыкант! Не сядай на радыкальныя дыеты. 11-15.08. шмат раптоўных развяротаў сітуацыі і нечаканых парываў сэрца. Пакуль не плануй будучыні ў пары. Пацікаўся натуральнай медыцынай. 14.08. не разлічвай на ўдзячнасць тых, каму ты нядаўна дапамог.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш атракцыйны і самаўпэўнены, што паможа пазнаёміцца з кімсьці цікавым. Але нікому не давай надзеі, калі не спадзяешся нічога па кантакце. Нікому нічога не абяцай, бо са здзяйсненнем абяцанняў у жніўні будзеш мець праблемы. Слухай парад, асабліва сяброў, каб не страціць аднаго з іх, для цябе важнага. Не выдавай грошай 11-15.08.

**(23.12. — 20.01.)** Бізнесменаў на гэтым тыдні чакаюць непрыемныя сюрпрызы з боку дзелавых партнёраў. Каб даведацца пра ўсе таемныя задумы вашых партнёраў і працаўнікаў, схадзіце ў поле і знайдзіце там зелле капытнік. Намалюйце на зямлі вакол яго кола, пасля чаго сарвіце і прамоўце: «Народ гэтую траву не саджаў, люд гэтую траву не паліваў, зямля яе ўзгадавала, вадою яе напаіла, для тайных спраў назначыла». Добра высушыце зелле і ўкладзіце яго ў маленькі мяшочак з сіняй тканіны. Калі будзеце займацца справамі або бізнесам, трымайце яго каля сэрца.

**(21.01. — 19.02.)** З 9.08. рушаць твае прафесійныя справы. Чакае цябе шмат турбот. У канчатковым выніку ўсе справы пойдуць на карысць, аднак трэба будзе прыняць дапамогу з боку. Калі ў цябе маюцца далёка ідучыя планы, не бойся задзейнічаць уплывовых сяброў і сваякоў, якія дапамогуць тваім праектам ажыццявіцца.

**(20.02. — 21.03.)** 11-15.08. нічога не рабі праз сілу; балаган, спешка. Нічога не рабі празмерна, таксама ў здароўі. Цікуюць пасткі. Не падпісвай важных, абавязваючых дамоў, бо выйдуць на святло новыя, некарысныя для цябе факты. Прыкладзіся да абавязкаў і падгані прапушчанае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (8)

Шацк у ментальным плане падаўся свойскім і патрыярхальным. Карацей, мая жаночая незалежнасць зноў апынулася пад знакам інтрыгуючых здагадак.

Жыллёвыя ўмовы ў гасцініцы „Вадаграй” не розніліся ад прыдарожных гатэляў у Польшчы, аднак, пасля ковельскай „Лясной песні”, здаліся каралеўскімі. Тут нават абмінула мяне бюракратыя, звязаная з рэгістрацыяй. У рэстаране працаваў кандыцыянер і ўвіхаліся ветлівыя афіцыянткі ў вышыванках. Сярод кулінарных прапаноў я выглядзела стравы з вугра. У меню былі смажаныя карасі ў смятане і вараныя ракі. Я заказала яшчэ ўкраінскі боршч, салацік з маладой капусты і далікатнае пшанічнае піва „Белы леў”.

У рэстаране балявалі вясельнікі, таму абед паабяцалі данесці мне ў нумар.

Цягам дваццаці хвілін яда была гатовая.

На падносе з абедам былі пададзены дзве лыжкі, два нажы і дзве шклянкі. Расстаўляючы талеркі на столік, афіцыянтка сакрэтна назірала па кутках ці не прыхаваны там які кавалер або вясельны сват. Ад падвойных лыжак і відэльцаў я сама пачырванела быццам вараныя ракі на падносе. І адчула сябе вінаватай. Навошта заказала ажно два піўца?

* * *

На добрую справу я не павінна какетнічаць і саромецца. Шацк быў жывым адлюстраваннем Падляшша. Такая ўвага да непітучасці жанчын несла ў сабе засакрэчаны камунікат: мясцовыя мужыкі любяць напіцца. Ва Украіне якраз ішла гутарка аб павышэнні на сорак працэнтаў цаны алкагольных напіткаў. У прэсе друкавалі стэнаграмы вулічных апытанняў. Усе жанчыны спачатку дэкларавалі непітучасць і ўсе пагаджаліся з павышэннем цаны, бо ж гэта — гаварылі яны — дзеля ратавання дзяржавы. „Чалавечыя”, то-бок мужчынскія, адказы шакіравалі анархіяй і эгаізмам. Мужыкі заяўлялі, што пасля павышэння цаны спіртных напояў, яны перастануць заходзіць у магазін і самі будуць гнаць самагонку. Каб выгнаць якасны самагон, патрэбны досвед і талент. Аднак журналісты, верагодна, трымаючы бок будучых самагоншчыкаў, не ставілі дадатковых пытанняў.

Культура спажывання алкагольных напіткаў ва Украіне здавалася нармалёвай. Тыя што выстойвалі ў магазіне пры алкагольных прылаўках, найчасцей набывалі піва. Шмат маладзёнаў і мужыкоў сярэдняга ўзросту выстойвалі ў паўкрузе з папяровымі кубачкамі ў руках ды папівалі сабе «эспрэса». Мода на каву прыйшла з Турцыі, куды шмат грамадзян ездзіць падзарабіць. Мяне цешыла, што ў Шацку пакуль не пераключыліся на кавусю. На вяселлі, што адбывалася ў маім гатэлі, падвыпіўшыя мужчыны па-малайцоўску заводзілі песні і свісталі. Тыя, што не лічылі сябе танцорамі і спевакамі, гулялі ў карты, даказвалі і рагаталі. Увечары, калі я чарговы раз пераходзіла праз вясельны натоўп у свой нумар, дарогу перастуліў вясёлы дзядзька з вусамі:

— *Люба, давай затанцуем!*

Я ўжо хацела назваць сваё імя, калі майго няздзейсненага партнёра ад танцаў схапіла за рукі жонка і пагрозліва выгукнула:

— Напіўся, дурак, ды людзей ужо не пазнае! Пайшлі дахаты! А вы не гнявайцеся, — апошні, надзвычай ласкавы зварот, быў накіраваны ў мой бок.

* * *

Апоўначы, калі ў мястэчку пачыналася так званая начная ціш, вяселле раптоўна суцішылася. Зараз праз маё прыадкрытае акенца трэлілі-заліваліся салаўі. Я адчувала сябе эмігранткай, якая з далёкага замежжа вярнулася ў часы дзяцінства. Ды апанавала мяне штосьці быццам настальгія. Я расчульвалася ад грукату конскіх капытоў на асфальце, салаўіных трэляў на тры галасы, п’яных мужчынскіх бясед на вуліцы. Хоць апошняя шчасця шмат у Беластоку, мяне цешылі разборкі на палескай гаворцы. Хоць найбольш прамаўлялі воблікі людзей. Для мне кожны тут быў падобны да кагосьці з Ласінкі, Чыжоў, Арэшкава, Орлі...

Раніцай я пазнаёмілася з уласніцай гасцініцы больш-менш такім спосабам.





Васіль Маротчак



— *Добры дзэнь! Я Ганна!*

— *А я Валя! Добры дзэнь! Як спалося на новым місьцы?*

Сімпатыю да гэтай поўнай брунеткі я адчула на адлегласць — фізічным выглядам напамінала знаёмую настаўніцу з Нарвы. У мяне не было сумненняў, што ўсе смакоцці ў «Вадаграі» — заслуга добрага густу гаспадыні. На сняданак я заказала яечню, сасквараную на тоўстых скрылях палескай саланіны. Яда ў «Вадаграі» была самай лепшай, якую я цягам апошніх адзінаццаці гадоў смакавала ва Украіне. За ўсе смакоцці, разам з начлегам, я заплаціла каля трыццаці долараў. Валя ўручыла мне візітную картачку, на якой віднела яе афіцыйнае прозвішча: Курагеў Валянціна Васільеўна.

— У вас такое прозвішча? — я пераклала ў думках прозвішча на лацінскі алфавіт і шукала адпаведняй краіны.

— Мой *чоловік* з Малдавіі.

— Вы там вучыліся, ці як?

— А дзе там, ён служыў у войску, тут непадалёк, у Ягадзіне. А я працавала медсястрой. Аднойчы ён скалечыў палец і прыйшоў да мяне на перавязку. Я раблю перавязку, а ён загледзеўся так дзіўна на мяне, але нічога не сказаў. А пасля, зноў прыйшоў... Так мы і пазнаёміліся.

Гэты просты расказ прагучаў як высмакаваны лірычны твор. Пад яго ўплывам я падумала тое ж самае слова, якім завяршыла свой расказ Валя:

— Відаць, доля такая!

Я хацела распытацца яшчэ пра бізнес, аднак мая дзелавая субяседніца зноў мяне ашаламіла:

— То трэба да *чоловіка*. Муж неўзабаве прыедзе і ўсё вам раскажа. Пачакайце крыху!

* * *

Замест чакаць, я рашыла схадзіць у краязнаўча-прыродны музей. За паркам, які напамінаў фрагмент натуральнага лесу, я адшукала будынак Лясного каледжа. Перад уваходам працавалі студэнты ў пазіцыі «на дыбках», з папяроскамі ў руках. Вольнай рукой выцягвалі пустазелле з газонаў. Здзівіла мяне вялікая колькасць прыгажунь, якія залётна перакідваліся слоўцамі з хлопцамі. Здавалася, за момант кампанія шмыгне ў парк на школьны прагул. Я не патрапіла ўявіць гэтых размаляваных дзевак у ролі рашучай лесьнічыхі са стрэльбай.

— Яны найчасцей ідуць працаваць у адміністрацыю, — паясніў Васіль Маротчак, віцэ-дырэктар каледжу.

Музей знаходзіўся ў асобным корпусе будынка. У сярэдзіне пахла мохам, пылам і савецкай мінуўшчынай. Узнік музей у 1974 годзе па ініцыятыве тадышняга дырэктара-франтавіка Валянціна Сулько. Экспанаты, хоць даўно не кансерваваныя, жыва адлюстроўвалі «лёгкасць» Палесся. У цэнтры знаходзілася багатая калекцыя балотнага птаства і лясных звяркоў. Нечаканасцю для мяне было пабачыць тут гарнастая і арла-беркута.

— Ці праўда, што ў Польшчы пры дарозе пасвіцца дзікая жывёла? — пацікавіўся спадар Васіль.

— А ў вас такога няма?

У адказ спадар Маротчак толькі заўсміхнуўся. Тайнай, пра якую ўсе ведаюць ва Украіне, з’яўляецца разбуханае браканьерства. Мой субяседнік расказаў гісторыю параненага лася, які некалькі тыдняў назад з’явіўся ў наваколлі Шацка. Следам яго вокамгненна наладзілі пагоню на машынах, як на афрыканскім сафары.

— І што? — мне складана было ўявіць пагоню па дзіравых, разрытых украінскіх дарогах.

— Вядома што. Загналі насмерць!

Толькі цяпер я звярнула ўвагу на чучалы зуброў і аленяў, якія годна выстойвалі ля парога, ды пры птушынай далікатнай калекцыі явіліся веліканамі.

— Яны прыехалі да нас з Белавежскай пушчы, — адзначыў дырэктар, — гэта падарунак ад беларусаў.

У грудзях я пачула цёплы прыліў гонару за родных аленяў і зуброў.

* * *

Перад ад’ездам з Шацка я набыла ў магазіне «Українскія сувеніры» скіфскія (ці можа гунскія) завушніцы-люнэлы з маладым месячыкам. Яны падыходзілі да неславянскіх назваў азёра Свіцязь і ракі Прыпяць. І расповеду, які ў час развітання я пачула ад Валянціны Курагеў. Мяне цікавіў Свіцязскі мужчынскі манастыр. А мая субяседніца была ягонай парафіянкай.

— Людзі прыязджаюць да нас здалёк, — пачала Валя. — Асабліва да нашага архімандрыта Арсеня. Ён дапамагае сужонствам, у якіх праблемы з нараджэннем дзяцей. Ды не толькі з гэтым. Як якая бяда, ці хвароба, то ўсе да яго ідуць па парады...

Я чакала працягу гэтага расказу ў найбольшай напружанасці. Ён гучаў як светлы ўказальнік у маім заімглёным сумненнямі і жахамі падарожжы.

— Мне самой дапамог архімандрыт, — гаварыла спадарыня Валянціна. — Штось здарылася са мной. Праз доўгі час сніўся адзін цяжкі сон. Ад гэтага стала сохнуць галава. Я не ведала што рабіць, як лечыцца. Ніякія пілюлькі тут не дапамагалі. Тады я пайшла да архімандрыта. А ён падумаў і кажа: „Дам табе малітву, прачытай яе перад сном”. І ведаеце, ліхі сон адчапіўся, прапаў з галавы...

Аповед падзейнічаў як найлепшая прамоліва месяца, я не ведала што мусова паехаць у Свіцязь...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960